ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 35 (2593)

3 верасня 1998 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 2000 рублёў.

НАШЫ ГАРАДЫ



## І СТАНОВІЦЦА КРЫХУ ЛЯГЧЭЙ

У парку восень. Ціхая, туманная, мокрая. Туман ахінуў кусты, застыў *між дрэў. Ён далікатна лёг на* жоўтыя кляновыя лісты, яны не паспелі прамокнуць і ласкава шаргацяць пад нагамі. Ліхтары разліваюць цьмянае святло. Яно льецца і з вокнаў дамоў, што акружаюць парк, але не можа прабіцца праз туманную заслону.

І вільготнае ад туману паветра, і цьмянае святло, і пачарнелыя ад вільгаці стваны старых дрэў, і лісце, што шуршыць пад нагамі, і цішыня надалі гэтаму вечару лірычнасці, сэрцу — спакою, назаўсёды засталіся ў памяці. Не-не ды згадаецца тое даўняе непаўторнае імгненне, зноў усхвалюе, кране да глыбіні душы.

Гэта адзін з многіх радасных эпізодаў, якія падарыў мне самы мой любімы беларускі горад — Гродна. З ім звязана ўсё маё жыццё. Першы раз я ўбачыў яго ў 1938, калі мне было шэсць гадоў: бацька ўзяў мяне на вяселле сваёй сястры. Запомніласяі тое шумнае вяселле, і маленькі домік з невялічкім садам, у якім жыла цётка Валя, і чысціня на вуліцах, якія, у поўным сэнсе слова, патаналі ў зеляніне.

Гродна адкрывала мне вочы на бе-

**НА ЗДЫМКУ: від Гродна.**

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



**Крыніца ў вёсцы Жукаўшчына Дзятлаўскага раёна вядомая з даўніх часоў. Старажылы лічаць тутэйшую ваду лячэбнай. Праведзеныя нядаўна даследаванні паказалі, што яна сапраўды карысная. Шчолачная па саставу, вада з гэтай крыніцы прыраўноўваецца да мінеральнай.**

**НА ЗДЫМКУ: Ірына ЧАЙНІКАВА з задавальненнем пачастуе падарожніка чыстай крынічнай вадой.**

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

СКАРЫНАЗНАЎСТВА Ў ПОЛЬШЧЫ НАПЯРЭДАДНІ ВАЙНЫ

## НА КАРЫСЦЬ ПАСПАЛІТАГА ЛЮДУ

У канцы 20-х—30-х гадоў нашага стагоддзя ў Савецкай Беларусі панаваў вульгарна-сацыялагічны падыход да постаці Ф. Скарыны. Гэтаму садзейнічала партыйна-дзяржаўная наменклатура, якая называла яго "манахам", далёкім ад культурных патрэб пралетарыяту. Характэрным для той пары было тое, што даследчыкі з Беларусі не мелі магчымасці карыстацца працамі замежных вучоных, таму яны не ведалі некаторыя важныя дакументы пра Ф. Скарыну, што былі выяўлены і апублікаваны за мяжой. Існаваў інфармацыйны вакуум, які стрымліваў усе намаганні беларускіх вучоных.

У той жа час у суседняй Польшчы працягваліся даследаванні ў скарыназнаўстве. Ф. Скарына быў вядомы ў свеце як гуманіст, усходнеславянскі першадрукар, што пакінуў значную творчую спадчыну ў гісторыі культуры не толькі беларускай, але ўсёй еўрапейскай, таму да вывучэння яго жыцця і дзейнасці звярталіся розныя даследчыкі. Яшчэ ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзяў польскія навукоўцы ўнеслі значны ўклад у скарбніцу скарыназнаўства працамі выдатных даследчыкаў С. Віндукевіча і М. Вайцяхоўскай. Яны выявілі і пракаменціравалі дакументы пра знаходжанне Ф. Скарыны ў Падуі, яго экзаменах у мясцовым універсітэце на годнасць доктара лекарскіх навук, а таксама пра гандлёвыя справы сям'і Скарынаў у Познані і працу яго лекарам і сакратаром віленскага біскупа. Артыкул С. Віндукевіча і рэцэнзія М. Вайцехоўскай неаднаразова выкарыстоўваліся беларускімі навукоўцамі і публіцыстамі.

Вывучаючы гістарыяграфію скарыназнаўства ў Польшчы напярэдадні вайны, немагчыма не заўважыць, што існавала два накірункі — гэта даследаванні польскіх вучоных у Варшаве і Кракаве, а таксама працы беларускіх і ўкраінскіх вучоных і публіцыстаў у Вільні і Львове.

Заўсёды вядомасць вучонага, яго значнасць як асобы ў гісторыі культуры адзначаецца ў энцыклапедычных выданнях. Адным з такіх была "Ілюстраваная энцыклапедыя", якая

**(Працяг на 4-й стар.).**

ЛЁСЫ ЛЮДСКІЯ

## ГАЛАСЫ РОДНЫХ КРЫНІЦ — У СПАДЧЫНУ ДЗЕЦЯМ

Ёсць сустрэчы, якія і сапраўды запамінаюцца ва ўсіх падрабязнасцях, нібы сама сіла ўражання адціскае на размяклай, расчуленай душы свой адбітак...

У казачна прыгожым гарадку Заульгау, што месціцца на поўдні Германіі, недалёка ад Ульма, куды я ехала амаль паўдня па заснежанай даліне з высакаверхімі ялінамі і акуратнымі дамкамі пад чырвонымі чарапічнымі дахамі, спадарыня Надзея Барт расказвала мне пра сваё дзяцінства ў Беларусі.

— Прапрадзед маёй маці быў упраўляючым у графа Папубінскага, і той за добрую службу падарыў яму колькі там валокаў зямлі. І ўжо бабуля Марыя як пасаг атрымала маёнтачак за 20 кіламетраў ад Косава, ва ўрочышчы Дзяды. Дзед мой Канстанцін, гвардзейскі афіцэр, быў прыгажуном і надта добра спяваў.

...У вялікай гасцінай дома, дзе мы сядзім удваіх, шмат прасторы. На супрацьлеглым баку стаіць фартэпіяна, прыцемак, што згушчаецца за высокімі вокнамі, трапяткімі ценямі прабягае па яго лакіраваных баках. Ля стала, сервіраванага з вялікім густам, шкляныя дзверы, за імі — белы ад свежага снегу сад. Надзея Мікалаеўна запальвае свечкі, і мяккае святло разліваецца па бездакорна белым абрусе, па сценах з карцінамі і фотакарткамі.

— Я цяпер жыву тут адна, мае дзеці зусім дарослыя. Сафія ў Эсене, працуе ў музычнай школе, Ірэна ў Берліне. Сын Томас працуе ў фармацэўтычнай фірме ў Швейцарыі. Верачка таксама жыве асобна. Але мы часта перазвоньваемся, я ў курсе ўсяго, што яны робяць.

Мы разглядаем фотакарткі — дзеці ў Надзеі Мікалаеўны надзіва абаяльныя, яны ўсміхаюцца, светла і лёгка пазіраюць у аб'ектыў. На іх глядзець таксама радасна.

Чаму ж пры поглядзе на іншыя фотакарткі, твары з якіх таксама прыязна і светла глядзяць на нас, сённяшніх і незнаёмых, душа ў мяне сціскаецца, шчыміць сэрца? Іх гаспадыня дастае не адразу, а, дастаўшы, таксама глядзіць на іх з тым пачуццём, з якім сустракаюцца сваякі пасля расстання. Таму што дапытлівая дзяўчынка Надзя Юрэвіч, якая ў форме польскага скаўта стаіць перад аб'ектывам, гэта яна сама, толькі ў іншым жыцці, у іншым свеце, які застаўся толькі ва ўспамінах. І ён іншы, чым звыклы для нас, паводле шматгадовай аднабаковай інфармацыі:

— Вайна, як гэта ні парадаксальна, нас выратавала: 23 чэрвеня 1941 года наш дзядзька Язэп мусіў ісці ў суд — падаткі на наш невялікі маёнтак былі непамерныя, выплаціць іх мы не маглі. А што магло яго чакаць пасля суда? Мы ўжо паспыталі савецкага жыцця: у Сібір выправілі не адну фурманку з людзьмі, якія вінаватыя былі толькі ў тым, што не хацелі савецкіх калектыўных гаспадарак. Ужо адправілі, праўда, у Архангельск, сем'і мамінага брата Уладзіміра і сястры Шуры, дазволіўшы ўзяць толькі па 20 кілаграмаў на чалавека. А што змесціцца ў тыя 20 кілаграмаў? Трэба ж выжываць у нялюдскіх, нязвыклых умовах, разам з дзеткамі...

Вайна дазволіла ім заставацца на сваёй зямлі, у сваім доме. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, гэта было амаль шчасцем: уласны дом нібыта даваў дадатковае цяпло, надзею выжыць. Яго разбурылі ў першую сусветную немцы, але бацька і маці зноў пабудавалі яго, хаця дзеля гэтага вралі жылы, не шкадуючы сябе. Бацька будаваў каналы, каб асушыць зямлю і прымусіць яе даваць больш ураджай, маці ж разам з нанятымі рабочымі насіла жвір, глядзела, як растуць сцены, потым дах. Раслі і дзеці — іх было чацвёра, — на здымках назаўсёды засталіся рэдкія хвіліны адпачынку і сціплых сямейных святаў.

**(Заканчэнне на 5-й стар.).**

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*ГАНДАЛЬ*

## БЕЛАРУСКІ ЭКСПАРТ

**Агульны аб'ём экспарту Беларусі за першае паўгоддзе 1998 года склаў 3,6 мільярда долараў, з якіх 2,8 мільярда — у краіны СНД (2,5 мільярда — у Расію), у дзяржавы далёкага замежжа — 0,8 мільярда долараў. Агульны аб'ём імпарту склаў 4,5 мільярда долараў, у тым ліку з краін СНД — 2,9 мільярда (з Расіі — 2,4 мільярда), з дзяржаў далёкага замежжа — 1,6 мільярда долараў. Сальда знешняга гандлю склалася адмоўным і дасягнула 877,2 мільёна долараў, ці 12,8 працэнта да ВУП. Адмоўнае сальда ў параўнанні з першым паўгоддзем мінулага года павялічылася на 20,1 працэнта. Усе гэтыя лічбы былі прыведзены на калегіі Міністэрства знешніх эканамічных сувязяў, удзельнічаў у якой кіраўнік міністэрства Міхаіл Марыніч.**

**Знешнегандлёвы абарот Беларусі за першае паўгоддзе склаўся ў памеры 8,2 мільярда долараў ЗША і павялічыўся ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года на 13,9 працэнта.**

*ШКОЛА*



**Тысячу дзвесце пяцьдзесят навучэнцаў прыняла ў гэтым навучальным годзе новая школа № 61 у жылым раёне Малінаўка беларускай сталіцы. Напярэдадні першага верасня настаўнікі разам са сваімі будучымі выхаванцамі і іх бацькамі чысцілі, мылі памяшканні, завозілі і расстаўлялі мэблю, класнае абсталяванне.**

**НА ЗДЫМКУ: новая школа № 61 з паглыбленым вывучэннем англійскай мовы ў жылым раёне Малінаўка.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

*"ЧОРНАЕ ЗОЛАТА"*

## ЗДАБЫТА 100 МІЛЬЁНАЎ ТОН

**У Дзень нафтавіка — першую нядзелю верасня ў сталіцы беларускіх нафтавікоў горадзе Рэчыцы адбудуцца ўрачыстасці з нагоды здабычы 100-мільённай тоны "чорнага золата".**

**Нафтаздабываючай рэспублікай Беларусь стала ў 1964 годзе, калі ля вёскі Моўчаны, што знаходзіцца на шашы Гомель—Калінкавічы, быў атрыманы першы струмень прамысловай нафты. А з 29 красавіка 1965 года беларускае "чорнае золата" стала паступаць у нафтаправод "Дружба".**

**Пік нафтаздабычы прыпадае на 1975 год. Тады з нетраў зямлі людзі ўзялі 7 мільёнаў 956 тысяч тон нафты. І паплаціліся за неразумнае жаданне быць наперадзе. Ігнараванне правілаў здабычы прывяло да заўчаснага абваднення пластоў нафты. У выніку працэс здабычы істотна ўскладніўся і стаў больш дарагім, а штогадовыя аб'ёмы "чорнага золата" знізіліся. Сёння мэта нафтавікоў — трымаць паказчык 1 мільён 800 тысяч тон у год. І знайсці яшчэ адно радовішча.**

**Геолагаразведачныя работы ў наш час вядуцца менш інтэнсіўна: няма належнага фінансавання. Тым не менш на геолагаў разлічваюць: мяркуецца, што зямля Палесся валодае як мінімум 160 мільёнамі тон "чорнага золата". На сённяшні дзень эксплуатуецца 551 свідравіна. У сярэднім кожная дае 1 тону нафты ў суткі.**

**20 працэнтаў аб'ёму нафты, што перапрацоўваецца айчыннымі заводамі, здабываецца на Палессі. Пэўную частку прадукту нафтаздабываючае ўпраўленне ў Рэчыцы прадае за мяжу.**

*ДРАГІЧЫНСКІЯ СЫРЫ*

**Багаты асартымент сыроў прапаноўваюць драгічынскія сыраробы. У гэтым годзе прадпрыемства выпусціць каля 100 тон галандскага сыру, а таксама мяккіх сыроў, такіх, як сыр "Нарач", "Славянскі", "Ракфор".**

**Новая лінія па выпрацоўцы масла дазваляе выпускаць 5 тон прадукцыі ў змену. З другаснай сыравіны ў гэтым годзе будзе выраблена 340 тон казеіну.**

**Драгічынскі сыраробчы завод працуе на малацэ, што паступае толькі з гаспадарак свайго раёна. А прадаюць прадукцыю Брэсцкай і Мінскай абласцям, пастаўляюць у Расію.**



**НА ЗДЫМКУ: за даспяваннем галандскага сыру сочыць майстар-сыраробаб Ніна ФЕДЗЮКОВІЧ. Вырабам сыроў яна займаецца 20 гадоў.**

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

*УРАДЖАЙ-98*



**22 гаспадаркі з пяці раёнаў вобласці — Магілёўскага, Чавускага, Быхаўскага, Круглянскага і Бялыніцкага, якія абслугоўвае Магілёўскі камбінат хлебапрадуктаў, ужо здалі дзяржаве больш за 25 тысяч тон збожжа. А ўсяго павінны здаць 35 тысяч тон.**

**НА ЗДЫМКУ: Уладзімір КАУРАЎ даставіў збожжа з калгаса "Радзіма" Бялыніцкага раёна.**

**Фота Мікалая ЦІТОВА, БелТА.**

*ПРАВА*

## ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАЯ ЎЛАСНАСЦЬ ПАД АХОВАЙ

**Уступіў у сілу новы Закон Рэспублікі Беларусь "Аб аўтарскім праве і сумежных правах". Са снежня мінулага года Беларусь — член Бернскага саюза па ахове літаратурных і мастацкіх твораў, а ў ліпені гэтага года ратыфікавала дагаворы Сусветнай арганізацыі інтэлектуальнай уласнасці. Рэалізацыя новага закона замацуе правы чалавека на выніки інтэлектуальнай уласнасці, забяспечыць захаванне і прымнажэнне інтэлектуальнага патэнцыялу краіны, развіццё нацыянальнай культуры.**

**Акрамя таго, наяўнасць сучаснага заканадаўства ў гэтай сферы з'яўляецца важнай умовай плённага міжнароднага супрацоўніцтва. "Без эфектыўнай сістэмы аховы аб'ектаў аўтарскага права і сумежных правоў краіна можа апынуцца па-за глабальнай інфармацыйнай інфраструктурай і не мець доступу да інфармацыйных рэсурсаў, патрэба ў якіх становіцца ўмовай эканамічнага і культурнага выжывання ў XXI стагоддзі", — падкрэсліў старшыня Камітэта па аўтарскіх і сумежных правах пры Міністэрстве юстыцыі краіны Станіслаў Сударыкаў.**

*ГУМАНІТАРНЫ ЛІЦЭЙ*

## УСЕ КРОПКІ НАД "І" РАССТАЎЛЕНЫ

**У сітуацыі з Рэспубліканскім гуманітарным ліцэем, мяркуючы па ўсім, знойдзена выйсце.**

**Канфлікт паміж дзяржавай і ліцэем пачаўся больш чым год таму. Дзяржаву не задавальняла атмасфера, якая склалася ў навучальнай установе, а педкалектыў, вучняў і іх бацькоў — гэтыя прэтэнзіі. Пастанова ўрада ад 10 ліпеня аб рэарганізацыі ліцэя і наданні яму больш высокага статуса, здавалася б, расставіла ўсе кропкі над "і". Аднак нядаўна абавязкі яго дырэктара былі ўскладзены на прарэктара Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта Мікалая Плескацэвіча, што выклікала новы напал страсцей.**

**Паводле слоў намесніка міністра адукацыі Генадзя Дыляна, былы дырэктар ліцэя Уладзімір Колас такім і не з'яўляўся, а быў дырэктарам цэнтра, у структуру якога ўваходзіла гэта навучальная ўстанова. Як адзначыў намеснік міністра адукацыі, міністэрства зрабіла ўсё магчымае, каб урэгуляваць канфлікт. Уладзімір Колас згадзіўся заняць прапанаваную яму пасаду намесніка дырэктара ліцэя.**

*ПРЫСВОЕНА ЗВАННЕ*

## ЯНКА БРЫЛЬ — ГАНАРОВЫ ГРАМАДЗЯНІН

**Народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль, як вядома, нарадзіўся ў Адэсе. Ды сапраўдная радзіма чалавека там, дзе прайшло яго маленства. А гадаваўся Іван Антонавіч у вёсцы Загора цяперашняга Карэліцкага раёна, куды пераехаў з бацькамі ў 1922 годзе. Радзіма бацькоў стала і радзімай сына. На ўсё жыццё! Іван Антонавіч падоўгу жыве ў сваёй роднай вёсцы. Сваім адчувае сябе сярод землякоў. Успомніў пра народнага пісьменніка Беларусі і Карэліцкі райвыканком. Ён прыняў пастанову, паводле якой Янку Брылю "за актыўны ўдзел у грамадскім жыцці раёна, любоў да роднай зямлі і мовы" прысвоена званне ганаровага грамадзяніна.**

*АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ*

РАЁННАЙ уладай Івацэвічаў прынята рашэнне аб бясплатнай перадачы кінатэатра гарадскога пасёлка Целяханы каталіцкай канфесіі. Як і пераважная большасць кінатэатраў рэспублікі, целяханскую залу глядач увагай не балаваў. Зрэшты, без кіно целяханцы не застануцца: пад "самае важнае з мастацтваў" збіраюцца абсталяваць другое памяшканне.

АМАЛЬ два месяцы сучаснае фотамастацтва Беларусі будзе прадстаўлена ў самай прэстыжнай галерэі Швецыі — Хасельбладцэнтры. Тут, у горадзе Гётэборгу, адкрылася выстава работ мінскіх фотамастакоў Сяргея Кажамякіна, Галіны Маскалёвай і Ігара Саўчанкі.

МІНІ-ФАБРЫКУ па вытворчасці наркотыкаў выявілі супрацоўнікі праваахоўных органаў у адной з брэсцкіх кватэр. Тут жа была знойдзена і нарыхтаваная сыравіна — каля шасцісот грамаў молатай макавай саломкі. Раней судзімыя гаспадар кватэры і яго спадручныя затрыманы.

НА ПРАЦЯГУ пяці гадоў наша адукацыйная сістэма плаўна пераходзіць на новы ўзровень. І, падобна, у гэтым годзе дасягнула свайго рашаючага этапу: з 1 верасня ў агульнаадукацыйных школах уводзіцца 12-гадовы тэрмін навучання.

ПАЧАТА будаўніцтва першага ў Гродне помніка Адаму Міцкевічу. Ужо адліты з бетону фундаментная падушка і п'едэстал. Хутка на ім будзе ўстаноўлены бронзавы бюст паэта работы мінскага скульптара Андрэя Заспіцкага. Бюст адліваецца на механічным заводзе "Воля" ў Варшаве. Грошы на ўзвядзенне помніка збіралі палякі Беларусі і Польшчы, сваю лепту ўнеслі таксама ўлады Гродна і мэр Варшавы.

*ПАМЯЦЬ*

## ЮБІЛЕЙ ЭЦЬЕНА

**У Чавусах прайшлі ўрачыстасці, прысвечаныя стагоддзю з дня нараджэння ўраджэнца райцэнтра, праслаўленага разведчыка Льва Маневіча. Да мемарыяльнай дошкі, устаноўленай на адным з дамоў горада, былі ўскладзены кветкі. А затым тут адбыўся мітынг, удзельнікі якога ўспомнілі слаўныя старонкі біяграфіі Эцьена. Менавіта пад такім псеўданімам у 30-я—40-я дзейнічаў разведчык у краінах Заходняй Еўропы.**

*ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ*



**Упершыню за апошнія гады брэстчане і госці горада змаглі пабываць на выставе племянной жывёлагадоўлі. Тут былі прадстаўлены такія галіны, як конегадоўля, птушкагадоўля, свінагадоўля, буйная рагатая жывёла.**

**Былі названы прызёры і чэмпіёны племянной справы. Пераможцы атрымалі не толькі Ганаровыя дыпломы, але і значныя грашовыя прызы. Самы важкі дастаўся селекцыянерам саўгаса "Мухавец" Брэсцкага раёна.**

**НА ЗДЫМКАХ: выступленне коннікаў на племянных конях; племянная жывёла, якая была прадстаўлена на выставе.**

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**



# І СТАНОВІЦЦА КРЫХУ ЛЯГЧЭЙ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

лы свет, на жыццё, дало безліч уражанняў, шмат ведаў. У заапарку, у музеі прыроды я пазнаў, што не толькі сабакі, коні, зайцы жывуць на зямлі. Уразілі сотні экзатычных звяроў, птушак, іх чучалы. Абудзіла фантазію разнастайнасць жывёльнага свету, захацелася пабыць там, адкуль іх прывезлі. Прага да падарожжаў, якая тады абудзілася, не давала спакою, потым я аб'ехаў ледзь не ўвесь былы Савецкі Саюз.

З ваенных часоў запомніліся дзве паездкі ў Гродна. Адна з іх з бацькам. 1941 год. Канец лета. Вечар. Па вуліцах горада хадзіць ужо нельга: камендантцкі час. Тулячыся каля платоў, перабежкамі, азіраючыся, дабраліся мы да цёткі Валі. А дабраліся на ўскраіну з цэнтра, з дома за высокім плотам, дзе жыў немец ці то афіцэр, ці які крыху ніжэйшы чын.

Гэты немец кіраваў адгрузкай абсталявання з аэрадрома на ўскраіне Скідзеля. У лік мужчын, якія цягалі цыстэрны для бензіну на чыгуначную станцыю і грузілі на платформы, трапіў і мой бацька, які ніадўна вярнуўся з палону. Там і сышоўся ён з немцам, а той запрасіў яго да сябе на кватэру ў Гродне.

Два пакоі былі паўпустыя. Стол. Крэслы. Шафа. Чарнявая высакаватая жанчына гатавала на кухні каву, падавала яе на стол. Яны траіх гучна размаўлялі, спрачаліся. Пра што — я не ведаў: размаўлялі яны на нямецка-руска-польскай трасянцы (бацька крыху валодаў усімі гэтымі мовамі).

Разлаваўшыся, немец падбег да шафы, адсунуў яе, дастаў маленькі пакуначак і паказаў бацьку партрэт... Леніна. Яны яшчэ доўга размаўлялі. А вярнуўшыся ў родную скідзельскую хату, бацька не раз згадваў таго немца, якога адправілі на фронт, гаварыў:

— Не ўсе ж немцы аднолькавыя. Здаецца, ёсць і добрыя.

Тая іх сустрэча засталася для мяне таямніцай.

А гады праз два, калі бацькі ўжо не было, маці паслала мяне чагосьці да цёткі Валі. Вяртаўся ў Скідзель цягнікам, у цялятніку — вагоне для перавозкі грузаў. Было ў ім цёмна і холадна. І трывожна. Пасажыры не бачылі адзін аднаго. Патрохху разгаварыліся. Аказаліся аднадумцамі, лаялі фашыстаў. А пасля заспявалі па-польску:

**Марш, марш Гітлера,**
**Нех го взъвме холера,**
**Нех го пёрун тшасне,**
**Нех го жыце згасне.**

А крыху пазней была вялікая бяда. Бацьку, падпольшчыка пры Польшчы, энтузіяста Саветаў, гітлераўцы ў ліку першых арыштавалі на Скідзельшчыне. Некалькі месяцаў трымалі ў гродзенскай турме. Маці знемаглася, ездзячы туды, тырчэла перад варотамі, стараючыся перадаць хоць крыху харчоў. Я і малодшая сястра жылі адны ў пастаянным чаканні нечага страшнага. І яно настала: з турмы бацька пайшоў у свой апошні шлях, у канцлагер у Штутгафе.

Гэта было адзінае змрочнае, што звязала мяне з Гроднам. Астатняе — усё светлае, прыемнае. Нават нялёгкія паездкі "зайцам". Маці давала мне кошык памідораў, я вёз іх у горад, улезшы ў вагон без білета. Прадаваў памідоры на рынку, купляў на іх у першыя пасляваенныя гады сшыткі, алоўкі, падручнікі. Дамоў вяртаўся на падножцы вагона. Сядзець было нязручна. Вецер свістаў у вушах. У Аульсе, першым прыпынку цягніка, безбілетнікаў лавілі чыгуначнікі. Мы хаваліся ў кустах, а як толькі паравоз даваў гудок на адход, кідаліся на "сваё" месца. Дзіва, але ніхто не зваліўся.

Успаміны, успаміны... Чаго толькі не было ў мяне ў гэтым горадзе! Тут пачаўся мой шлях у журналістыку. У 1949 годзе паэт Міхась Васілёк, сябар бацькі, запрасіў мяне на пасяджэнне літаратурнага аб'яднання, якім ён кіраваў. У снежні быў надрукаваны першы мой верш у "Гродзенскай праўдзе". Яе журналісты, перш за ўсё Аляксандр Кіркевіч, зрабілі мяне, школьніка, няштатным аўтарам абласной газеты. Пасля школы я паступіў у Белдзяржуніверсітэт на аддзяленне журналістыкі.

У Гродне я пазнаёміўся з многімі людзьмі, таварыскія, сяброўскія адносіны з якімі захаваліся назаўсёды. Гэта Янка Брыль, Васіль Быкаў, Аляксей Карпюк, Данута Бічэль, Пятрусь Макаль... Шчырыя, адкрытыя гутаркі з імі памаглі мне глыбей разабрацца ў сутнасці жыцця, пазнаць рэчаіснасць, шырэй глянуць на гістарычныя і сённяшнія падзеі.



Гісторыя ж у Гродна — наколькі багатая, настолькі і цудоўная. Усё новыя пласты яе адкрываліся мне ў музеях, архівах, кнігах, у расказах дасведчаных людзей. У тысячах твораў яна адлюстраваная, а усё новыя і новыя звесткі з'яўляюцца. У 1978 годзе гарадзенцы адзначылі 850-годдзе свайго горада (ад першага ўпамінання ў Іпацьеўскім летапісе). Аднак не мінула і пару гадоў, як археолагі на падставе новых раскопак засведчылі: горад старэйшы прыкладна на 150—200 гадоў.

Ён заўсёды быў яблыкам разладу паміж суседзямі. Яго называлі сваім і палякі, і рускія, і немцы, і літоўцы. Да сёння вядуцца спрэчкі на гэтую тэму. А я, мяркуючы па тым, што ведаю, лічу яго толькі беларускім горадам. Што жыло ў ім, па сведчанні Аляксея Карпюка, перад апошняй вайной да 23 працэнтаў немцаў, не значыць, што гэта нямецкае паселішча, як не значыць, што яно літоўскае, яўрэйскае і г. д. Тлумачэнне, на маю думку, можа быць толькі адно: беларусы ў сваім гуманным, культурным, палітычным ды іншым развіцці так апярэдзілі Усход і Захад, што стварылі дзяржаву, у якой хапіла месца ўсім, у якой жылі людзі розных нацыянальнасцяў, рэлігій, поглядаў...




Відаць, таму і развіваўся ён так па-чалавечы. Таму так шмат у ім значнага, адметнага, гуманнага ва ўсіх галінах чалавечай дзейнасці. Гэта праяўляецца нават у знешнім аблічча горада, якое ўвабрала ў сябе розныя стылі архітэктуры, адпавядала патрэбам гараджан у розныя гістарычныя эпохі. Калоўская царква (XII стагоддзе), стары замак (XI стагоддзе), новы замак (XVIII стагоддзе), ніжняя царква (XII стагоддзе), бернардзінскі касцёл і манастыр (XVI стагоддзе), іншыя збудаванні, большасць з якіх захаваліся да нашых дзён, — выдатныя помнікі архітэктуры. У XII стагоддзі склалася гродзенская школа дойлідства, будынкі яе адрозніваліся наватарскімі па тым часе сродкамі ўпрыгажэння фасадаў, сцэн.

Узорам грамадзянскай архітэктуры стала Гарадніца (1765 год). Гэта першы ў Беларусі квартал (20 дамоў), забудаваны комплексна тыпавым маламетражным жыллём. Гэта сённяшні цэнтр горада — вуліца Ажэшкі.

Уся цэнтральная частка Гродна — амаль суцэльная даўніна. Па ёй прыемна паблукаць пешшу. Тут што ні дом, то арыгінальная архітэктура. На многіх мемарыяльныя дошкі ў гонар вядомых людзей. А іх, слынных, жыло тут нямала — ад старажытных часоў да нашага стагоддзя: Давыд Гарадзенскі, Вітаўт, Стэфан Баторый, А. Тызенгаўз... Ды хіба ўсіх пералічыш? Кожны з іх зрабіў нешта карыснае для горада. Так, літоўскі падскарбі, гродзенскі староста А. Тызенгаўз стварыў мануфактуры — 21 прадпрыемства (1760—1880 гады). Яны пачатак беларускай тэкстыльнай прамысловасці, з іх пачалася яе капіталізацыя.

Цяпер Гродна — буйны прамысловы цэнтр краіны. Тут дзейнічаюць такія гігантскія прадпрыемствы, як "Азот" — найвялікшы ў Еўропе вытворца азотных тукаў, хімічны камбінат, тонкасуконны камбінат, завод карданных валоў, тытунёвая фабрыка, заводы — гандлёвага машынабудавання, аўтаагрэгатаў, мясакамбінат... Усяго ў горадзе больш як сто прадпрыемстваў, будаўнічых, транспартных і іншых арганізацый.

Жыве ў горадзе звыш 300 тысяч чалавек. Умовы для іх спрыяльныя: шмат магазінаў, прадпрыемстваў грамадскага харчавання, устаноў культуры, школ, тэхнікумаў, ёсць універсітэт, медыцынскі і сельскагаспадарчы інстытуты. Славіцца самы вялікі ў Беларусі рэчавы рынак, на ім купіш усё, што хочаш, вытворчасці ледзь не ўсіх краін свету.

Неацэнны ўклад Гродна ў развіццё архітэктуры, культуры, тэатра, медыцыны, літаратуры, музыкі... У яго музеях, архівах захоўваюцца каштоўныя матэрыялы аб Беларусі.

Прыязджаючы ў горад свайго дзяцінства і юнацтва, я маладзею душой. Радуюся яго эканамічнаму, духоўнаму росту. Радуюся, што ў ім так багата захавалася даўніны. Пахадзіць па ціхіх зялёных вуліцах у цэнтры — для мяне адно задавальненне. Наплываюць успаміны, ажываюць падзеі. І становіцца крыху лягчэй жыць.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: так выглядае сучасны горад Гродна.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**





## ПАДАРОЖЖА Ў МІНУЛАЕ

# З МАІХ ВАНДРОВАК ПА ВЯЛЕЙШЧЫНЕ

Ці чуваная гэта "справядлівасьць", каб багатага, хоць і душагубніка, пахавалі на могілках на пачэсным месцы, як практыкуецца гэта часта-густа ў праваслаўных і каталікоў. А гандаль за шлюбы, за хрост, хаўтуры і іншае, які практыкуецца ў царквох й касьцёлах. Мой Пранук каталік, я была праваслаўная. Жывём мы паміж сабою сугодліва. Дык чаго патрэбна нашаму пробашчу ад Пранука, калі проста змушае яго, каб я канешна перайшла ў "польскую" веру, называючы да таго мяне брыдкімі словамі? Колькі разоў пробашч налягаў на Пранука, толькі ж разоў Пранук з ім павадзіўся й цяперка страціў ахвоту хадзіць у касьцёл. Цяперка ксёндз, аб'яжджаючы па Калядзе, мінаець нашую хату.

— І што табе, маці, — няхай сабе. Болей астанецца нам кялбас, — зажартаваў Пранук. — Але ж добра ты, мая Марылька, мяне атэставала перад гасьцём. Выходзіць, што зусім благі чалавечына. Як тая беларуская прымаўка гаворыць: "Гол, васьцёр й Богу працівен". Не такі я ёсьць. Да вас, да баптыстых — я не пайду, як не хачу йсьці цяпер у касьцёл, дзе ксяндзы-палякі пераварачваюць нас у "польскую" веру і дзе зьневажаюць усё беларускае. Калі б у нашым касьцёле быў ксёндз-беларус, дык ня толькі я, але й ты ахвотна хадзіла б у касьцёл. І вось я чакаю гэтага часу. Спадзяюся, што хутка гэтага дачакаемась, бо рады беларускіх ксяндзоў дый праваслаўных духоўнікаў павялічваюцца. А гэтыя духоўнікі не выганяць будуць народ з касьцёлаў і цэркваў, а вабіць яго туды. Мая Марыля і шмат такіх, як яна — гэта бунтары проціў цяперашніх парадкаў, якія пануюць у касьцёлах і царквах. Пераменяцца гэтыя парадкі да лепшага — усе гэтыя "баптыстыя" разлятуцца.

Ня меў я больш ахвоты распытвацца ў цёткі Марылі аб яе "веры". Дый больш яна і не сказала б, што ад яе пачуў.

— Ты, дзядзька Пранук, дакляраваў мне збаіць казку аб нейкім княжычу, які быццам недалёка ад вашае вёскі пахаваны. Можа б не адмовіў цяперака пабаіць.

— Добра. Дык слухайце. Ці гэта казка, ці не — я не ведаю. Хутчэй за ўсё, што гэта праўда. Шмат, шмат гадоў таму назад, — пачаў Пранук, — сустракалі нашыя продкі ў гэтых мясцох юнака, які, апрануты ў белую адзежу й узброены ў меч, часта раз'яжджаў на агністым белым кані па непраходных барох і лясох. Гэты таемны юнак быў дужа прыгожы, але вясёласьці на ягоным абліччы ніхто не бачыў. Пры сустрэчы з людзьмі ніколі не загаварваў з імі, а калі яго хто й зачэпліваў гутаркай, дык нікому не адказваў. Прысьпяшаў толькі бег свайго прыгожага каня й зьнікаў з людзкіх вачэй. Вестка аб гэным загадлівым юнаку разьняслася шырока й далёка па нашае зямельцы, але хто ён, скуль і пашто раз'яжджае па цёмных барох й лясох — ніхто не ведаў. Адны цьвердзілі, што гэта нейкі значны княжыч з Полаччыны, другія парэчылі, што гэта сын прыгоннага мужыка, а трэцьція — што гэта здань, бо, каб, як казалі яны, гэта быў чалавек, дык хоць раз, а загаварыў бы з людзьмі і не ўцякаў бы ад людзей. Ці гэта была здань, ці жывы чалавек, як я ўжо казаў, ніхто добра ня ведаў, але ад гэтага чалавека-здані ніхто ня ўцякаў, наадварот — да яго чамусьці гарнуліся й шукалі з ім сустрэчы. Нешта таёмнае цягнула людзей да гэтага прыгожага й сумнага юнака.

Гэтак прайшло дзесятак гадоў. Места юнака пачалі людзі сустракаць у барох маладога мужчыну на белым кані і апранутага ў белую сьвітку. Ён, як і юнак, не загаварваў з людзьмі, таёмна вандраваў па тых жа лясох, але ягоны белы конь ня бегаў ужо агніста, як раней. Але не стараніўся ўжо гэты мужчына людзей. І калі пыталіся яго, куды едзе і чаго шукаець, выймаючы з похвы свой меч і паказваючы на ўсход і захад, адказваў: "Датуль я не супакоюся й буду блутацца па цёмных барох, пакуль вы бяз маіх напросін ня прыдзеце разам са мною шукаць праўды й справядлівасьці". Больш нічога не дадаваў і, апусьціўшы галаву, паволі ад'яжджаў.

Прайшло яшчэ шмат гадоў. І ўжо заместа яго людзі пачалі сустракаць у барох сівога старыка, ужо без каня, аднаго, які, апіраючыся на меч і зьвесіўшы сваю сівую галаву на схудалыя грудзі, йшоў моўчкі, ледзь-ледзь пераступаючы. Пасьля зьнік і ён. Казалі, што памёр на палянцы ў бары, а літасьцівыя людзі, пахаваўшы яго, засыпалі ягоную могілку высокім капцом.

З таго часу прайшло шмат гадоў, але й да сёньняшняга дня старыкі разказваюць аб здані-чалавеку і нават ведаюць места, дзе ён пахаваны.

Пранук кончыў, і я запытаўся, ці верыць ён у гэтую "казку".

— Як жа — веру, — адказвае жыва Пранук. — І калі хочаш, дык заўтра пакажу табе могілку гэтага бяздомнага змагара-княжыча.

У гэтую ноч я блізу ня спаў. Калі й удалося хоць крыху задрамаць, дык не давалі мне супакою цяжкія сны. Ужо сонца высока ўзыйшло, як я прачнуўся. Галава балела, ламала косьці. Даведаўшыся аб стане майго здароўя, Пранук запрапанаваў мне напіцца гарачага зельля і праляжаць да вечара ў пасьцелі.

— Празяб, згаладаўся — мусіш падлячыцца, а то мала будзе карысьці з тваіх вандровак, — угаварваў мяне гаспадар.

— Не, браток, не лягу і зельля мне не патрэбна. Вядзі лепей на курган, — прасіў я.

Дзень выдаўся з раніцы пагодлівы. Вышаўшы з хаты, падаліся з Пранукам у непадалёчку росшы тут сасновы лес. Прайшоўшы вярсты са дзьве, вывеў мяне Пранук на невялікую палянку і, паказваючы на даволі высокі курган, сказаў: "Вось дзе ён". Падыйшлі да кургана, я зьмерыў яго, разгледзіўся па старанах, каб лепей запаматаваць сабе месца, і моўчкі адышлі.

— А мо", братка, пакапаць яго? — запытаўся Пранук. — Адкапаць і паглядзець, што ён у сабе крыець?

— Пачакай. Мо" з часам гэта й зробім. А цяперка нікому не суверайся, што хочаш кратаць курган. Сам разумееш, чаму. Прыдзе час, а тагды мы пацікавімась. Гэты курган наводзіць шмат сумных думак аб нашае мінуўшчыне, і калі твая ўчарашняя "казка" ёсьць ня казкай, а сапраўднасьцю, дык косьці, спачываючыя пад гэтым курганам, кожнаму з нас павінны быць дарагі, і рушаць іх па напраснаму — грэх.

Адвітаўшыся з Прануком й ягонае жонкай, пашыбаваў далей. Пагода добрая, сонейка прыграваець. Йду паволі, не сьпяшаючыся. Глухая восень ужо налажыла сваю руку на прыроду. Пустое поле, балоцістая дарога. Толькі пажаўцеўшыя й пачырванеўшыя, быццам маляваныя, лісьця клёнаў й бярозак весяляць вока.

"Тры дзярэўні, два сіла. Восем дзевак, адзін я... Цілі — цілі — лі — лі — лі...", — чую наперадзе за яловым ляском. Прыбаўляю шагу. Убачыўшы мяне, хлопцы прыстанаўліваюцца. Сабралася іх тут з дзесяток.

— Куды выбраліся, хлопцы? — пытаюся.

— На вечарынку, дзядзька. Пойдзем разам, будзе весяла.

— А чаму пяецё такую дрэнь, дый шчэ" маскоўшчыну? — пытаюся. — Ці ж ня ўмееця сваіх прыгожых беларускіх песьняў?

— Умець, то ўмеем, але не складна ў нас выходзіць, — адзываецца гарманісты. — Пяем мы й па-польску: Usia siusi, usia siusi"[1], — рагочачы, кажаць хлопцы.

— І гэта, — сьмеючыся, кажу, — дрэнь. Давайце лепей запяемо "А пад калінаю". І жартам-сьмехам, хаця з мяне сьпявака малы, праз цэлую дарогу да бліжэйшай вёскі даволі стройна зычэлі маладыя галасы. Пачуў я сябе раптам маладым й здаровым. Быццам трыццаць гадоў скінуў са сваіх плеч. Здаровая маладасьць гэтых сялянскіх сыноў мяне заразіла. Гатоў быў пусьціцца з імі ў скокі. Прышоўшы ў вёску, хлапцы давай мяне зацягваць у хату. Хацелі пачаставаць яешняй й гарэлкай.

— Ад яешні не адкажуся, але гары піць ня буду. Перапіў яе за сваё жыцьцё даволі, цяперка ня п'ю і кожнаму чалавеку ня раджу гэтага рабіць. Асабліва вам — моладзі — нашае беларускае красе. Ці ж ня весяла было нам йдучы й паючы беларускія песьні? А каб напіліся мы ўсе гарэлкі, дык ня ведама, ці разсталіся мы прыяцелямі.

**Антон ПАДДУБІЧ**

**Працяг. Пачатак у № № 32—34.**

[1] Прыпеў фрывольнай песні.

# НА КАРЫСЦЬ ПАСПАЛІТАГА ЛЮДУ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.)**

выйшла на польскай мове ў Варшаве ў 1928 годзе, дзе быў змешчаны артыкул пра Ф. Скарыну. У гэтай публікацыі гаварылася, што ён перакладаў Святое пісьмо на беларускую мову ў чэшскай Празе, аднак чамусьці сцвярджаецца, што пераклад быў зроблены з лацінскай Вульгаты. Вядома, што Ф. Скарына выкарыстоўваў для перакладу Чэшскую Біблію 1506 года і розныя іншыя першакрыніцы. Тут жа даюцца звесткі пра яго адукацыю і навуковую ступень доктара медыцыны. У артыкуле не прыводзяцца канкрэтныя даты друкавання кніг.

У вялікай працы А. Брукнера "Гісторыя культуры Польшчы" ў 2-х тамах на польскай мове, якая выйшла ў 1930—1931 гадах у Кракаве, даследчык не абмінаў дзейнасць Ф. Скарыны і яго месца ў гісторыі культуры. Аўтар распавядаў аб тым, што беларус Ф. Скарына мае радавод з полацкіх заможных купцоў. Ён атрымаў вучоную ступень доктара медыцыны ў Падуі, раней у 1504—1506 гадах вучыўся ў Кракаве ва універсітэце, дзе стаў бакалаўрам філасофіі. Была ў яго вучоная ступень доктара вызваленых навук. А. Брукнер лічыць, што Біблію Ф. Скарына перакладаў з чэшскай на рускі лад для паспалітага люду. Усё Святое пісьмо ён не выдаў таму, што не хапіла сродкаў, потым у Вільні надрукаваў "Апостал" і "Падарожную кніжку". Падаюцца звесткі, што беларускі першадрукар працаваў у віленскага біскупа лекарам і сакратаром і ў караля Альбрэхта, у якога звёз лекара-яўрэя і друкара. Аўтар не паведамляе, адкуль ён узяў усю навуковую інфармацыю, крыніцы і літаратура адсутнічаюць. Не вельмі дакладна ён разумее, якой мовай карыстаўся для перакладу Бібліі Ф. Скарына. Аднак А. Брукнер адводзіць Ф. Скарыне значнае месца ў гісторыі культуры Польшчы і Беларусі, аб чым ён пісаў у "Энцыклапедыі старапольскай", што выйшла ў 1939 годзе.

Яшчэ адна праца польскіх філолагаў звяртае на сябе ўвагу — гэта "Усеагульная вялікая літаратура", што выйшла на польскай мове ў 30-х гадах у Польшчы. У чацвёртым томе сваё веданне беларускай літаратуры паказаў польскі даследчык І. Галамбек. Ён лічыў, што пачатак "залатога веку" ў беларускай літаратуры ідзе ад Ф. Скарыны. Выкладаючы ў храналагічным парадку ўсе вядомыя звесткі пра жыццё і дзейнасць беларускага першадрукара, вучоны лічыць, што Ф. Скарына знаходзіўся пад уплывам Лютара. Аўтар звяртаецца да пражскага і віленскага перыяду друкарскай і выдавецкай дзейнасці беларускага гуманіста і падкрэслівае, што ён рабіў сваю працу для шырокіх паспалітых мас беларускага народа. У кнізе змешчаны партрэт Ф. Скарыны з яго Бібліі.

Безумоўна, калі вучоны звяртаецца да вывучэння гісторыі пісьменства, то ён абавязкова павінен азнаёміцца з дзейнасцю Ф. Скарыны. Так, у кнізе Т. Шчэрбы "Кароткі нарыс гісторыі пісьменства" на польскай мове (Кракаў, 1932) аўтар некалькі абзацаў прысвяціў друкарству Ф. Скарыны ў Вільні. Высока ацэньваючы ўзровень друкарства кніг Ф. Скарыны, ён лічыў, што яны выходзілі на беларускай мове. Выданні аказалі значны ўплыў на дзейнасць пратэстанцкай друкарні ў Нясвіжы. Т. Шчэрба выкарыстаў працы рускага мастацтвазнаўцы В. Стасава, хаця спасылкі на яго няма.

Месца кніг Ф. Скарыны ў гісторыі віленскага кнігадрукавання імкнуўся вызначыць Е. Чарнецкі ў артыкуле "Вопыт погляду на гісторыю віленскай кнігі", які выйшаў у Кракаве ў шостай кніжцы за 1932 год "Бібліятэчнага агляду". Аўтар назваў Ф. Скарыну "загадкавай постаццю". На яго думку, беларускі першадрукар выдаваў кнігі на царкоўнаславянскай мове "для рускага свету". Тут жа ён беспадстаўна сцвярджае аб польскім уплыве на кнігадрукаванне ў Вільні ў XVI стагоддзі і малым беларускім. Пра Ф. Скарыну Е. Чарнецкі пісаў раней у працы "Вільня ў гісторыі польскай кніжкі", надрукаванай у Вільні ў 1928 годзе. Зрабіўшы агляд біяграфічных звестак з жыцця Ф. Скарыны, ён адзначаў, што ў 1525 годзе пачалося кнігадрукаванне ў Вільні, куды з Прагі прыехаў Ф. Скарына. Зараз вядома, што ў Вільні Ф. Скарына надрукаваў "Малую падарожную кніжку" ў 1522 годзе.

У Варшаве ў верасні 1934 года праходзіў Другі сусветны кангрэс славістаў, на якім, на жаль, адсутнічала дэлегацыя вучоных з БССР. Аднак, нягледзячы на гэта, беларуская тэматыка знайшла прыстойнае месца на кангрэсе. З рэфератам "Новае аб доктару Ф. Скарыне ў Празе" выступіў А. Флароўскі. Ён паведаміў, што ў 30-х гадах XVI стагоддзя Ф. Скарына быў лекарам і садоўнікам ў чэшскага караля Фердынанда.

Зазначым асобна, што сёлета ў Кракаве адбудзецца XII Сусветны кангрэс славістаў, на якім, спадзяёмся, будзе шырока прадстаўлена беларуская тэматыка.

Значную ролю ў вывучэнні спадчыны Ф. Скарыны адыграла Беларускае навуковае таварыства ў Вільні (БНТ). Члены гэтай арганізацыі праводзілі канферэнцыі, прысвечаныя беларускаму першадрукару, выступалі з артыкуламі пра Ф. Скарыну. Найбольш цікавыя з іх былі апублікаваны ў "Гадавіку БНТ", у "Запісах БНТ", у часопісе "Калоссе", які таксама выходзіў у Вільні.

Выкарыстоўваючы дакументальныя матэрыялы і ўжо назапашаныя нешматлікія публікацыі, аўтары такіх артыкулаў папулярызавалі Ф. Скарыну сярод беларускага насельніцтва Польшчы, а таксама вялі распрацоўку такой важнай і цікавай праблемы. У вышэйпамянёных выданнях можна знайсці вельмі цікавыя і змястоўныя артыкулы, прысвечаныя беларускаму першадрукару.

У "Гадавіку БНТ", кніжцы І (Вільня, 1933) быў змешчаны артыкул Антона Навіны (А. Луцкевіча) "З не друкаванай спадчыны М. Багдановіча", у якім падаецца эпісталярная перапіска беларускага пісьменніка з В. Ластоўскім. У паштоўцы, што была адпраўлена 23 мая 1914 года з Яраслаўля, М. Багдановіч пісаў: "Што да Скарыны, дык вось якая рэч: я напісаў апрыч яго ўласнай біяграфіі асобны раздзел, дзе падаў характарыстыку папярэдняга беларускага культурнага жыцця і пісьменнасці. Але гэты раздзел заняў столькі-ж мейсца, як і сам Скарына". А. Луцкевіч робіць выснову, што, "як бачым, Скарына і ягоная эпоха найбольш цікавіла паэта", М. Багдановіч высока цаніў тое, што беларускі гуманіст быў доктарам навук, які многае зрабіў, каб заходнееўрапейская культура была вядомая на Беларусі. Аўтар артыкула паведамляе, што ў Беларускім музеі імя Івана Луцкевіча ў Вільні захоўваецца частка кніг Бібліі Ф. Скарыны.

А. Луцкевіч 8 сакавіка 1936 года выступіў на канферэнцыі, зладжанай БНТ, з рэфератам аб самых важных фактах і датах з жыцця Скарыны на падставе найноўшых навуковых даследаванняў. У сваім паведамленні ён выкарыстаў працы П. Уладзімірава, І. Луцкевіча, А. Мілавідава, М.

Шчакацiхiна, М. Вайцяхоўскай, А. Флароўскага. Разглядаючы спатыканы на друках Скарыны знак, якi тады даследчыкi лiчылi манаграмай з лiтараў Д i Т, двух Б, або тых жа двух Б ды О, А. Луцкевiч паказаў, што сюды бясспрэчна ўваходзiць яшчэ лiтара Г.

Тады ж выступiў Я. Станкевiч (заўважым, што Ян (Янка) Станкевiч у Канадзе зваўся Джон) з дакладам аб мове Ф. Скарыны. Аналiзуючы мову скарынiнскiх выданняў, выкарыстоўваючы артыкул Я. Воўка-Левановiча з кнiгi "400-лецце беларускага друку", ён прыйшоў да высновы, што не ўсе яны могуць лiчыцца перакладамi ў сучасным разуменнi. Прадмовы да асобных кнiг Бiблii былi напiсаны па-беларуску, а пераклады ўяўляюць сабой царкоўнаславянскую мову ў беларускай рэдакцыi. Вось такiм чынам было адзначана 450-годдзе з дня нараджэння Ф. Скарыны па гiпотэзе М. Шчакацiхiна. Сход Беларускага Навуковага Таварыства пастанавiў звярнуцца да мясцовых уладаў горада Вiльнi з прапановай назваць адну з вулiц iмем доктара Ф. Скарыны.

З вялiкiх артыкулаў, прысвечаных Ф. Скарыне, звяртае на сябе ўвагу праца Адама Станкевiча "Доктар Францiш Скарына i яго культурная праца. З нагоды 450-леццяя яго нараджэння (1486—1936)", апублiкаваная ў дзвюх кнiжках часопiса "Калоссе" за 1936 год. Аўтар меў намер вывучыць Скарынiяну на беларускай нiве за дзесяць гадоў (1925—1936), з крытычнага пункту гледжання. У артыкуле шмат месца займае адказ А. Станкевiча рэцэнзенту Г. Лаўмянскаму на яго кнiжку "Доктар Ф. Скарына — першы друкар беларускi" (Вiльня, 1925). Тут жа ён высока ацанiў працу савецкiх навукоўцаў аўтараў кнiгi "400-лецце беларускага друку" (Мiнск, 1926), а таксама У. Iгнатоўскага i М. Гарэцкага па вывучэннi жыцця i дзейнасцi Ф. Скарыны. Аўтар артыкула адзначыў, што У. Пiчэта станоўча ставiўся да яго кнiжкi пра Ф. Скарыну. У сваёй працы А. Станкевiч падтрымлiвае гiпотэзу М. Шчакацiхiна аб даце нараджэння 6 сакавiка 1586 года беларускага першадрукара, хаця пiша, што сам даследчык быццам бы адмовiўся ад сваёй гiпотэзы.

Аўтар лiчыць, што ўся дзейнасць Ф. Скарыны мела праваслаўныя каранi, але ўпэўнена сказаць, хто ён быў па веравызнаннi, вельмi цяжка. "Аб гэтым, — пiша А. Станкевiч, — маглi-б вырашыць: метрыка i аўтэнтычныя словы цi чыны самога Скарыны або яго сучаснiкаў. Пакуль гэтага няма — справа веры Скарыны застаецца далей нявырашаная. Вырашэнне гэтай справы, пэўна-ж, мела б важнае значэнне: яно дало б навуцы новае аб Скарыне святло. Але гэта, памойму, справа другарадная. Гэтым польскiм вучоным, якiя так цiкавяцца верай Скарыны i якiя даволi з лёгкай рукi залiчаюць яго ў католiкi, робяць гэта ў пераважнай меры з матываў не навуковых, а палiтычных. Яны трымаюцца старога прынцыпу: калi хто католiк, дык той паляк. Палякам (i католiкам) Скарыну даўней лiчыў Лiндэ, Ляўевель, Вiшнеўскi, Крашэўскi, палякам яго лiча сёння Лаўмянскi, Контак i Фiялак, якi кажа "наш д-р Францiшак Скарына".

Для нас жа, беларусаў, вера Скарыны прынцыповага значэння не мае. Цi ён быў праваслаўным, цi католiкам, цi пратэстантам, цi нават унiятам, што, на мой погляд, найменш праўдападобна, ён не перастае быць агульнабеларускiм вялiкiм культурнiкам, якi найважнейшую на той час крынiцу асветы, Бiблiю, пераклаў на тагачасную жывую лiтаратурную беларускую мову" ("Калосс е", 1936, кн. 3, с. 158).

Пытанне веравызнання Ф. Скарыны iмкнуўся неяк вырашыць У. Талочка, якi ўважлiва прачытаў працу доктара, прафесара Камiля Контака з Пiнска, якi выдаў у 1933 годзе ў Львове на польскай мове ў двух тамах "Польскiя бернардзiны", дзе сцвярджае, што Ф. Скарына меў дачыненне да бернардзiнаў.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

# ГАЛАСЫ РОДНЫХ КРЫНIЦ — У СПАДЧЫНУ ДЗЕЦЯМ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Я спецыяльна выпiсала подпiсы пад фотакарткамi, якiя сям'я Юрэвiчаў узяла з сабой у далёкую дарогу: "Пасха, 1935 год, Надзя i Оля пры банкуху" (так называўся пiрог, якi спёк бацька), "Пахаванне бацькi, 1936 год", "Мама з братам Антонам", "Вяселле Толi Юрэвiча i Нiны Клiмчук, Слонiм, 1942 год" i iншыя. Усяго iх чатырнаццаць, i на апошнiм здымку надпiс: "Бабуля Вера з яе любiмымi макамi ў Заульгау". Гэта мацi Надзеi Мiкалаеўны Вера Канстанцiнаўна. Зноў бяру ў рукi здымак 35-га года — там яна, шляхцянка, у жоўтай сукнi з белым каўнерыкам, стаiць зусiм яшчэ маладая, стаiць прама i спакойна, поўная годнасцi i нават, я сказала б, велiчы. Перад такiмi падаюць на каленi, цалуюць iм рукi... Але лёс гэтай жанчыны прыпаў на той час, калi такiя былi непатрэбныя новай уладзе, якая кавала новых — бяздумных. Вера Канстанцiнаўна сустрэла вайну ўжо ўдавою, з чатырма дзецьмi, i калi партызаны з пагрозамi прыходзiлi ў маёнтак, каб у класава "чуждого элемента" забраць, што можна, яна гэтак жа спакойна ўгаворвала iх, улагоджвала, старалася абудзiць лепшае. Надзя тады вучылася ўжо ў гiмназii, гэта таксама лiчылася крамолай, нiбыта жыццё можна спынiць i давучыцца потым. Падазронасць i непрыязнасць да аднаасобнiкаў iшлi з першых жа часоў новай улады, i колькi высiлкаў рабiла Вера Канстанцiнаўна, каб не даць разбурыць свой дом, урававаць сваё гняздо!

— Помню, мама ўсё паўтарала, што Саветы паклалi нас на лапаткi, — задуменна ўспамiнае Надзея Мiкалаеўна. — А мы былi яшчэ занадта юныя, каб нешта ёй парадзiць. Праўда, яна ўсё ж заўсёды трымалася годна i старалася не паказваць нам, што ў яе на сэрцы...

Пра сваю мацi яна апавядае з такiм замiлаваннем i пяшчотай, што ўжо гэта сведчыць, якiм быў яе род, якiя духоўныя каштоўнасцi былi ў iм галоўнымi:

— Заканчвалася вайна, трэба было рашаць, што нам рабiць. Заставацца было страшна: нас маглi загнаць у Сiбiр, як iншых. Мы доўга малiлiся Божай Мацi Жыровiцкай, i памятаю, што калi выйшлi з храма, адчулi палёгку i спакой. I ўсе мы ўспрынялi гэта як добры знак...

Гэтая сям'я, апроч свайго паходжання, была "вiнаватаю" перад новай уладай яшчэ i тым, што ў час вайны дзецi хадзiлi ў школу, а Надзя — у гiмназiю. Апроч гэтага, яна была членам Саюза беларускай моладзi.

— Спачатку я вучылася ў Слонiме, у польскай гiмназii. Затым — у Косаве. Скажу шчыра — зноў жа, нягледзячы на ўсе наступствы вайны, у гэтыя часы беларуская школа была беларускай па-сапраўднаму. Без яе мы б "уплылi" на польскi бок. А так, закахаўшыся ў творы Багдановiча, Купалы, я i па начах, бывала, чытала вершы. Мае аднакласнiкi нават прасiлi мяне што-кольвечы чытаць перад урокамi...

Партызаны, якiя часцяком па начах заходзiлi да iх, ставiлiся да Надзiнай вучобы варожа, сям'ю нават аднойчы ледзь не расстралялi. Ратавалi навакольныя сяляне, у якiх даводзiлася хавацца. Аднак усё ж сям'я выжыла, захавалася. Але...

"Усё роўна нам тут жыць спакойна не дадуць", — казала мацi. I яны, узяўшы карову, няхiтрыя свае пажыткi (а дзяўчаты не захацелi пакiнуць любiмую гiтару, пад якую так хораша спявалi яны падчас святаў), адправiлiся ў далёкую, невядомую дарогу, не ведаючы, дзе давядзецца на ноч прыхiлiць галаву...

Кемлiвая i працавiтая сям'я Юрэвiчаў дайшла да далёкага Заульгау i тут пачала абжывацца, пускаць у чужую зямлю першыя карэньчыкi. Мацi пайшла працаваць. Надзя паступiла ў польскую гiмназiю ў Равенсбургу, дзе адным з яе настаўнiкаў быў Барыс Кiт, пасля — ва унiверсiтэт у Мюнхене на фармацэўтычнае аддзяленне. Пасля грашовай рэформы, калi датацыi на студэнтаў рэзка зменшылiся, ёй прапанавалi перайсцi на вучобу ў Марбург, але там трэба было здаваць экзамены на нямецкай мове, якую яна тады толькi асвойвала. Дапамог выпадак.



— Прафесар Бэме ўзяў у мяне ранейшую залiковую кнiжку, пабачыў там прозвiшчы знаёмых яму выкладчыкаў — вучоных з Вiльнi, Львова, якiя працавалi цяпер у Мюнхене, i зiрнуў на мяне ўжо iначай. Ён i пасля апекаваўся мною, калi па новых патрабаваннях трэба было здаваць яшчэ i матуральны экзамен. Менавiта ягоны лiст, што я маю веды вышэйшыя, чымся многiя нямецкiя студэнты, дазволiў мне спакойна працягваць вучобу...

Але акаляючае жыццё спакойным не было. Дзеля таго каб дачка не паехала ў Лювэн у Бельгiю, куды накiравалiся з-за цяжкага матэрыяльнага становiшча многiя маладыя беларусы, мацi працавала, дзе i як магла. Апроч таго, iснавала небяспека, што iх могуць вярнуць у Савецкi Саюз, бо спачатку саюзнiкi згадзiлiся на прымусовую дэпартацыю, якую там праводзiў НКУС.

— Фармальна мы лiчылiся грамадзянамi Польшчы, але з беларусамi, калi iх выяўлялi, Саветы не надта цырымонiлiся. Памятаю, з Равенсбурга мне трэба было ехаць да мацi ў Заульгау. Стаю, галасую. Спыняецца машына, мужчыны мне ўсмiхаюцца i пытаюцца, куды трэба ехаць фройляйн. I толькi калi я ўжо села ў машыну, з жахам убачыла, што гэта савецкiя афiцэры. Што, калi яны пазнаюць ува мне "сваю"? Але трымаюся, стараюся толькi менш гаварыць. I яны высадзiлi мяне ў Заульгау, я падзякавала, а пасля адчула, што ногi мае не iдуць, як знямелi...

Абаяльнай беларускай дзяўчыне ўсмiхалiся не толькi афiцэры. У адзiн з прыездаў да мацi ёй давялося легчы ў бальнiцу з апендыцытам. Аперацыю рабiў доктар Франц Барт.

— Ён быў старэйшы за мяне на чатырнаццаць гадоў i здаваўся трохi суровым i цалкам занятым медыцынай. Але гэта быў вялiкi рамантык, i, вярнуўшыся ва унiверсiтэт, я не магла забыцца на тое, як чула i сардэчна ён паставiўся да мяне i як не хацеў, каб я ад'язджала...

6 лiпеня 1950 года Надзея Юрэвiч стала жонкай Франца Барта, i фотакартка, на якой яны зняты ў гэты дзень, стаiць у гасцiнай. На нявесце белая атласная сукенка, якая пашыта з вялiкiм густам i выглядае як надта шыкоўная. У той нялёгкi час — i такая раскоша?

— Мая сяброўка, якая потым стала вядомым куцюр'е, зрабiла яе з кавалка тканiны, што прыслала мама, якая ў той час паехала да сястры ў Амерыку. Мама пасля вярнулася да мяне, у дом, якi я збудавала разам са свёкрам, бо Франц, па-першае, шмат працаваў i не мог займацца будаўнiцтвам, а па-другое, лiчыў, што мы зможам пражыць i без уласнага дома, здымаючы кватэру. Але ўва мне жыў успамiн аб нашым доме на радзiме, i я хацела, каб у будучых маiх дзяцей быў свой Дом...

Яго i сапраўды многiя гады напаўнялi дзiцячыя галасы, радасць дружнай сям'i, падобнай да той, якая сядзела некалi за святочным банкухам ва ўрочышчы Дзяды, што пад Косавам на Беларусi. Праўда, муж Надзеi спачатку хваравiта ўспрыняў, што ягоная цешча ўсё ж пайшла працаваць, прытым простай рабочай на фабрыку, каб самой зарабiць сабе на страхоўку i пенсiю i не быць цяжарам для даччынай сям'i, у якой, якраз, як у яе, былi тры дзяўчынкi i хлопчык. Муж быў ужо паважаным чалавекам у гарадку, кiраваў у бальнiцы аддзяленнем.

— Але я давяла яму, што чэсная праца, хай сабе i самая простая, не можа нiкога зганьбiць. I людзi гэта зразумелi. I мая мама, i муж да канца жыцця карысталiся тут павагай. Дарэчы, i ляжаць яны на могiлках побач...

Вера Канстанцiнаўна пражыла 88 гадоў, над яе труной у мясцовай кiрсе дарослыя ўжо ўнучкi расчулiлi ўсiх цудоўным выкананнем рэквiема, i адпявалi яе два пастыры — праваслаўны i каталiцкi. А памiрала яна, як i жыла, спакойна, з годнасцю, суцяшаючы блiзкiх: "Не плачце, мне ўжо час iсцi на Вечнасць"...

Надзея Мiкалаеўна молiцца за яе. I за мужа, якi так любiў i шанаваў яе. I за дзяцей. I за ўвесь свой беларускi род...

Чужына дала ёй тое, у чым адмовiла радзiма, але яна апантана любiць усё беларускае, у ейнай мове — чыстая, не сапсаваная пастаяннай кастрацыяй мiлагучнасць, трапная афарыстычнасць ("не думайце, што вы ўсю мудрасць адной лыжкай з'елi", — гаворыць яна, успамiнаючы пра знаёмага). Я падарыла ёй сваю кнiжку, i яна чытала яе ўсю ноч, аранiцай абняла мяне, як ужо блiзкага чалавека, i ў мяне была чыстая радасць сумоўя i духоўнай блiзкасцi, якая з гадамi прыходзiць усё радзей... Я шкадавала, што маю зусiм мала часу, каб запiсаць усё, што яна расказвала мне пра жыццё беларускай моладзi на эмiграцыi, пра тое, як назапашвала тая веды па гiсторыi, культуры, стварала творы мастацтва, якiя i там, далёка ад радзiмы, жывiлi беларускую душу. I пра сённяшнiя справы — дапамогу пацярпелым ад Чарнобыля (Надзея Мiкалаеўна не ў баку ад гэтага), i пра тыя пласты невядомай нам спадчыны, што яшчэ чакаюць сваiх даследчыкаў...

Ужо пры самым маiм ад'ездзе яна села за фартэпiяна i заспявала песню на словы Хведара Iльяшэвiча, музыку да якой напiсаў кампазiтар Алесь Карповiч. Аказалася, што яна перапiсваецца з дачкой кампазiтара Тамарай, якая i прыслала ёй гэтыя ноты. Тое, што ў сям'i Бартаў талент да спеваў перадаваўся праз пакаленнi, я ўжо ведала: нездарма ж паненкам Юрэвiч у далёкай дарозе не раз дапамагала гiтара i розныя песнi: "Вечар над Шчарай", "Люблю наш край" i iншыя. Але менавiта дочкi Надзеi Мiкалаеўны сталi прафесiяналамi ў музыцы. Пра Iрэну Барт-Грайнера нямецкiя газеты пiшуць як пра "вiртуоза песенных спеваў". I чамусьцi падумалася, што, можа, гэта галасы нашых рэчак i крынiц перадалiся ў спадчыну ёй, дачцэ беларускай шляхцянкi i нямецкага лекара...

Едучы назад па вузкай далiне мiж гарамi, якiя нахiлялiся над чыгункай вострaверхiмi ялiнамi, я ўспамiнала задушэўны голас сваёй зямлячкi, чыю душу жывяць словы i музыка творцаў, амаль невядомых на радзiме... Успамiнала i прозвiшчы сяброў, з якiмi вучылася i сябравала юная Надзя Юрэвiч, — Яўген Смаршчок, сваяк Ларысы Генiюш, Лявон Трусевiч, якому муж Надзеi даў грошы на экзамен, даў "без аддачы", але той прыслаў iх з першай жа палучкi, доктар Уладзiмiр Набагез, айцец Iван Тарасевiч, што прымаў споведзi на дзевяцi мовах (дарэчы, сама Надзея Мiкалаеўна называе сябе "дылетантам на васьмi мовах"), i многiя, многiя iншыя, хто хацеў служыць Беларусi, але яму не далi гэта рабiць тут, на нашай радзiме, дзе i сягоння так патрэбны гарачыя сэрцы патрыётаў...

Кажу — "на нашай", бо i сапраўды дарагая наша Беларусь у нас адна. I можа, якраз яны — тыя, хто праз многiя гады пранёс любоў да яе i нiколi ёй не здраджваў, — могуць многiх з нас навучыць гэтай любовi...

**Вольга IПАТАВА.**

## НАВIНЫ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

Больш, як 30 мастакоў з Польшчы i Лiтвы, Украiны i Беларусi ўдзельнiчалi ў мiжнародным пленэры на Навагрудчыне, якi прысвячаўся 200-м угодкам Адама Мiцкевiча. Вопытныя i пачынаючыя майстры стварылi сто сорак жывапiсных i графiчных твораў, якiя былi прадстаўлены на выставе ў раённым Доме культуры. А 12 верасня, калi ў Навагрудку будзе адзначацца юбiлей Вешчуна, з экспазiцыяй выставы змогуць азнаёмiцца госцi больш чым з 30 краiн свету.

Памяць класiка польскай i сусветнай лiтаратуры ўшанавана ў мястэчку Беняконi Воранаўскага раёна. У мясцовым касцёле, побач з якiм знаходзiцца магiла Марылi Верашчакi, сяброўкi юнацкiх гадоў Адама Мiцкевiча, адкрыта мемарыяльная дошка. Вось яе тэкст: "Адаму Мiцкевiчу, Вешчуну польскага народа, у 200-гадовы юбiлей яго нараджэння — удзячныя землякi. Беняконi. 1998 г. "Тут частку душы сваёй пакiнуў..." Апошнi сказ ўзяты з верша, прысвечанага паэтам каханай жанчыне, з якой не раз сустракаўся ў недалёкiх Больценiках. Дарэчы будзе заўважыць, што продкi Адама Мiцкевiча паходзiлi з Радунскай парафii Лiдскага павета (зараз Воранаўскi раён).

У Гродне заявiла аб сваiм нараджэннi краязнаўчае таварыства iмя Тодара Нарбута. Такое рашэнне прынялi дэлегаты ўстаноўчай канферэнцыi краязнаўцаў, якая працавала два днi. Акрэслiўшы накiрункi ў рабоце грамадскай арганiзацыi, канферэнцыя выбрала кiруючыя органы таварыства на чале з прафесарамi Андрэем Майсяёнкам i Сяргеем Габрусевiчам.

Калегi па Таварыству польскай культуры Лiдчыны шчыра павiншавалi свайго сябра Станiслава Ушакевiча з высокай узнагародай. Рада аховы памяцi, барацьбы i пакутнiцтва Польшчы адзначыла вядомага краязнаўцу з прыгараднай вёскi Малейкаўшчына залатым медалём "Апякун над месцамi памяцi". Так ацэнена дзейнасць гэтага чалавека па ўшанаванню памяцi нашага знакамiтага земляка Iгната Дамейкi. Падчас падрыхтоўкi да мiжнародных чытанняў у гонар вядомага вучонага С. Ушакевiч многае зрабiў, каб паблiзу былога фальварка Заполле ўстанавiць мемарыяльны знак, а ў Крупаўскай СШ адкрыць невялiкi музей I. Дамейкi.

Такой жа ўзнагароды ўдастоены i старшыня Таварыства польскай культуры Лiдчыны Аляксандр Калышка. Ганаровыя адзнакi лiдчанам уручыў Генеральны консул Рэспублiкi Польшча ў Гродне Сiльвестр Шостак.

Першы нумар часопiса "Ад лiдскiх муроў" з'явiўся ў старажытным горадзе. Гэта лiтаратурна-мастацкае выданне мяркуецца выпускаць кожны квартал i друкаваць у iм творы лiдскiх пiсьменнiкаў, мастакоў, кампазiтараў.

**Алесь ЖАЛКОЎСКI.**

*МАСТАК ЯН КУЗМІЦКІ*

# ЯГО АКАДЭМІЯ — БЯЗЛІТАСНАЕ ЖЫЦЦЁ

Шведскі мастак Ян Кузміцкі, што родам з Гродзеншчыны, зноў завітаў у Мінск. Толькі на гэты раз ён вырашыў удзельнічаць у якасці выхавальніка гуртка малявання ў летніку "Дарожнік", які раскінуўся на беразе Свіслачы. Чыстае паветра, цудоўны пах лесу і лугоў — усё спрыяла адпачынку госця з Поўначы. Але трэба ведаць гэтага неўтаймаванага "шукальніка шчасця". Хутка знайшоў сяброў, вучняў, як кажуць, свайго гледача і слухача, бо ўжо праз некаторы час са згоды дырэктара летніка Вацлава Бурачэўскага пачаў весці своеасаблівыя заняткі па маляванню, асноўным напрамкам якіх стала не маляванне з натуры, а цёплыя размовы, разважанні ўслых аб стане сваёй душы, здольнасцях аналізаваць сітуацыі, назіраць за сваімі пачуццямі. І як вынік — графічныя творы вучняў, дзе на самай справе разам з выявамі нейкіх сімвалаў, асобых знакаў сваёй душы кожны напісаў, як ён адчуваў сябе ў пачатку гэтага псіхалагічнага эксперыменту і потым, калі прыйшлося пісаць аб сваім адчуванні ў апошні дзень адпачынку. Удзячнасць за супрацоўніцтва і прапанову сустрэцца ў наступным годзе выказвалі не толькі тыя, хто адпачываў, але і В. Бурачэўскі. Ён гаварыў аб гуманных пачуццях мастака з далёкай Швецыі, які аддаваў свой час і веды зусім незнаёмым дзецям. Але, на маю думку, тут ёсць невыпадковая сувязь паміж Янам і беларускімі дзецьмі, роздум аб лёсе беларускіх дзяцей. Справа ў тым, што, адкрываючы свае выставы ў Брэсце, Гродне, Мінску, Ян Кузміцкі заўсёды прапаноўваў гледачам каталог сваіх прац побач з сваёй аўтабіяграфіяй: "Нарадзіўся я ў складаны і трагічны час: мая маці памерла, калі мне не было і двух тыдняў. (Ян нарадзіўся ў 1944 годзе бліз Жалудка на Гродзеншчыне). Выхоўвала мяне бабуля, якой было 90 год. Але насталі часы, калі кожны думаў аб сабе і ратаваў сябе як мог. Нікому я не быў патрэбны на маёй радзіме. Прыйшлося галадаць, ліць слёзы, змешаныя з крывёй. Я, як дзікі звер, змагаўся за існаванне: выхопліваў у дзяцей кавалкі хлеба... Я памятаю, калі былі моцныя халады, а на мне была дзіравая фуфайка, быў я брудны і абадраны,



вошы ўпіваліся ў маё цела. Усё было супраць мяне — і людзі, і мая натура — усё вяло да майго канца. Але мая душа, якая вырасла ў такой атмасферы, не паддалася гэтым звярыным пыткам. У мяне не змаглі забіць пачуццяў і эмоцый, не змаглі вырваць усё цудоўнае з маёй душы, чым мяне ўзнагародзіў Бог. Гэта засталося на ўсё жыццё". Вось такая споведзь нашага беларускага суайчынніка, які ў 1957 годзе змог уцячы спярша ў Польшчу, потым перабраўся ў Аўстрыю, Ізраіль, Швецыю. Далей напісана так: "Мая чалавечая і мастакоўская акадэмія — гэта бязлітаснае жыццё, халодная вуліца і бясконцая барацьба за будучае".

Творы Яна Кузміцкага — жывапісца, скульптара, графіка экспануюцца ў прыватных калекцыях Амерыкі, Італіі, Францыі, Ізраіля, Польшчы, Германіі, Фінляндыі, Нарвегіі, Англіі і інш. Беларускія музеі таксама не абыходзяць увагай творчасць гэтага выключна арыгінальнага песняра любові. У рамках постмадэрнісцкай эстэтыкі творы-мадэлі Яна Кузміцкага маюць сваю асабістую нішу, дзе не прытрымліваюцца станоўчага ці адмоўнага, найбольш адпавядаючы этыцы міфалогіі з выкарыстаннем паўтарэнняў, міфалагем і іншых сродкаў мастацкай умоўнасці.

**Людміла НАЛІВАЙКА,**
**кандыдат мастацтвазнаўства.**



## ВЫЙШЛІ Ў «РУНІ»

У заснаваным не так даўно ў Літве выдавецтве "Рунь" выйшлі ў свет адразу дзве кнігі — "Вандроўкі па Вільні" Лявона Луцкевіча і "У пошуках зачараваных скарбаў" Марыяна Пецюкевіча.

У "Вандроўках па Вільні" змешчана больш за 100 фотаздымкаў вядомых архітэктурных помнікаў і непрыкметных старых дамоў, так ці інакш звязаных з вірлівым беларускім жыццём у Вільні, дзейнасцю і творчасцю шмат якіх беларускіх пісьменнікаў, асветнікаў, а таксама грамадска-палітычных і культурных устаноў і арганізацый. Надрукавана падрабязная карта з месцазнаходжаннем гэтых віленскіх аб'ектаў. Кніга Лявона Луцкевіча дазваляе чытачам зірнуць на Вільню вачыма ейнага карэннага жыхара, віленчука-беларуса, а таксама можа паслужыць выдатным спадарожнікам кожнаму ў яго вандроўках па вуліцах нашае старажытнае сталіцы.

У кнізе "У пошуках зачараваных скарбаў" распавядаецца пра тое, як нялёгка было вясковаму хлапчуку-беларусу здабыць у Заходняй Беларусі сярэднюю і вышэйшую адукацыі — "зачараваныя скарбы" для выхадцаў з бедных перадваенных беларускіх вёсак. Пра тое, што здабытыя нашым шукальнікам "скарбы веды і асветы" былі каштоўныя не толькі сваім высокім агульнаадукацыйным узроўнем, — а перадусім шляхам іхняга здабыцця.

ПІСЬМЫ М. ЗАБЭЙДЫ-СУМІЦКАГА ДА МАКСІМА ТАНКА

# «ПРЫНОШУ РАДАСЦЬ ІНШЫМ»

*Прага, 19. І.1967.*

Дарагі Максіме!

Вельмі не хацелася Цябе турбаваць, ведаючы, як Ты заняты, але думаю, што гэта справа будзе Цябе цікавіць.

Тут можна зрабіць доўгаграючую пласцінку беларускіх песень-рамансаў. Трэба толькі забавязацца купіць каля 600 гэтых пласцінак.

Мне сказалі, што Савецкі Саюз кожны год купляе ў Чэхаславакіі каля 200 000 пласцінак, дык на Ваша жаданне (жаданне Беларусі) лёгка можа ўключыць у гэту лічбу 600, а нават і больш пласцінак з беларускімі песнямі.

Тут вельмі добрая тэхніка, а я пастараюся заспяваць нашы песні як найлепш.

Пішу аб гэтым і Рыгору Раманавічу, якога гэта павінна цікавіць як старшыню Саюза кампазытараў Беларусі.

Чакаю хуткага адказу, каб паспеў гэта зрабіць пакуль жыву.

Будзь здароў, дарагі Максіме, і не сярдуй, што Цябе турбую.

Прывітанні сябрам.

Твой **Міхась Забэйда.**

*Прага, 10.9.67.*

**"Чулліваю душою Паэта чытаеш Ты і між радкоў".**

Дарагі Максіме!

Моцна мяне абрадавала і маральна падтрымала Тваё апошняе харошае, сяброўскае пісьмо. Атрымаўшы яго, яшчэ з большаю энэргіяй аддаўся працы падрыхтоўкі новае доўгаграючае пліткі. Не было гэта лёгка, а доктар казаў, што для здароўя нават і небяспечна. Але роды, хоць і цяжкія, адбыліся: нарадзілася новая беларуская плітка. 6 і 8 верасня наспяваў наступныя песні і рамансы:

1. М. Аладаў: Сасонка, словы: Я. Купала.
2. М. Аладаў: Лета, словы: Я. Купала.
3. М. Аладаў: Накцюрн, словы: П. Трус.
4. П. Падкавыраў: Ходзіць дзеўчына па воду, словы: А. Русак.
5. А. Спаскі: Ноч, словы: М. Багдановіч.
6. М. Чуркін: Ты прыдзі, словы: Я. Купала.
7. А. Туранкоў: Вечар, словы: А. Гурло.
8. А. Туранкоў: Летам за парканы, словы: М. Танк.
9. А. Туранкоў: Лета, словы: Ф. Чарнушэвіч.
10. А. Туранкоў: Слуцкія ткачыхі, словы: М. Багдановіч.
11. А. Туранкоў: Маладыя гады, словы: М. Багдановіч.
12. М. Забэйда: Ціха, так ціха, словы: М. Танк.
13. В. Алоўнікаў: Па-над лесам, словы: А. Русак.
14. Гр. Пукст: Любы мой, прыдзі, словы: М. Машара.
15. К. Галкоўскі: Ці грэх цябе любіць? Словы: Зм. Бядуля.
16. А. Багатыроў: Пад цёмным ляском, словы: П. Глебка.
17. К. Галкоўскі: Маладая Беларусь, словы: Я. Купала.

Дзякуй адпаведным добрым людзям, якія зразумелі, што мастак не жыве вечна, і памаглі правесці найгранне цяпер, не чакаючы фармальнага заказу. Думаю, што справа новае пласцінкі парадуе ўсіх, хто любіць прыгожыя песні, і таму варта было б зрабіць аб гэтым абвестку ў друку.

"Полымя" чытаю ўвесь час. Шкада, што Ты з ім развітаўся. (Тыраж яго пайшоў уніз.)

Твае "Лісткі календара" чытаў з вялікім зацікаўленнем і хваляваннем. Усё гэта мне вельмі блізкае. Перажываў з Табою і сум, і радасці. Дзякуй, што ўспомніў добрым словам і пра мае песні.

З пісем і друку (прэсы) бачу, як мы ганарымся мінулым. Гэта добра, але трэба памятаць, што справы сянняшняга і заўтрашняга дня яшчэ важнейшыя, чым мінулае.

Не хачу забіраць Твайго часу, дык трэба канчаць.

Дарагі Максіме! Дажывеш да дзьвюх пяцёрак. Сардэчна віншую, абдымаю, цалую. 17-га вып'ю за Тваё здароўе. "Хай шчасцем напоўніцца сэрца Тваё, як кубак крыштальны віном".

Шчырыя прывітанні Табе з сям'ёй і ўсім, хто любіць нашу песню, мову, Радзіму.

Твой **Міхась Забэйда.**

*Прага, 20.3.70.*

Дарагі Максіме!

Мне пішуць, што Ты "надоўга загрыпаваў". Пра мяне ж тут гавораць, што прыношу людзям шчасце, таму пішу Табе, каб Ты хутчэй выздаравеў. Перажыўшы ўлетку другі інфаркт, навучыўся цаніць здароўе. І хоць хадзіць магу толькі памалу, спяваю зноў з поспехам. У мінулым годзе за свае спевы атрымаў прэмію і быў узнагароджаны медалём. Але ведаю, што кожнае выступленне можа быць апошнім. Мне ж 14.6. г.г. будзе 70 (калі дажыву).

Ці атрымаў Ты маё пісьмо, пісанае 18.1.1968 г.? Адказу ад Цябе я не дачакаўся. Калі знойдзеш магчымым, напішы. Бывай здароў! Прывітанні сям'і і супольным знаёмым.

Твой **М. Забэйда.**

*Прага, 28.8.70.*

Дарагі Максіме!

Тваё віншаванне з маім 70-годдзем, твае добрыя сяброўскія словы, высокая і шчырая ацэнка працы, якой я прысвяціў амаль усё жыццё, моцна мяне парадавалі і ўлілі новыя сілы ў маё спрацаванае сэрца. Вялікае сардэчнае Табе дзякуй за гэта. Рыгор Раманавіч, напэўна, расказваў Табе, як шмат людзей успомніла маё 70-годдзе. А ад чэшскага музычнага фонду нават атрымаў ганаровую ўзнагароду за інтэрпрэтацыйную дзейнасць у галіне песні. Каб усім аддзячыцца, спяваю далей (хоць мялю з апошняга). Прыемна бачыць, што яшчэ даю людзям радасць. Шкада, што не чуюць мяне на Радзіме... З падзякай за віншаванні шлю Табе, Тваім блізкім і ўсім, хто мяне ўспомніў, самыя сардэчныя прывітанні і найлепшыя пажаданні. Моцна абдымаю і цалую.

Твой **Міхась Забэйда.**

*Прага, 26.3.71.*

Дарагі Максіме!

Хочацца напісаць табе пару радкоў, каб падзякаваць за Твае "Лісткі календара" і за добрыя сяброўскія словы, якія Ты заўсёды знаходзіш для мяне, для мае скромнае працы. Гэтым разам яны мяне асабліва парадавалі, бо ўжо даўжэйшы час хварэю. Тэмпература 38—38,5. А ў маім веку ды з маім сэрцам невядома, чым усё можа скончыцца. "Лісткі" чытаю з вялікім зацікаўленнем. Успамінаю, перажываю, жыву з Табою... Горш сталася з маімі "лісткамі". Як ведаеш, у Празе працую з пачатку саракавога года. За гэты час наспяваў на магнітафонныя стужкі ў Пражскім радыё многа песень розных стыляў і розных народаў. Былі там і савецкія кампазытары: Шастаковіч, Кабалеўскі, Хачатуран, Шапорын, Туранкоў і інш. Прыйшоў жнівень 68-га года і... усё гэта сцерлі. Працу 30-ці год як карова языком злізала...

Ды не буду Табе аб гэтым пісаць. Маеш сваіх клопатаў больш, чым трэба. Галоўнае, каб паправілася Тваё здароўе! Тады знойдзецца час і пісаць. Ты яшчэ, браток, малады. А я мушу ўзяць таблетку (пілюльку) ды легчы, хоць хацелася б яшчэ пагаварыць з Табой.

Шлю самыя сардэчныя прывітанні Табе з сям'ёй, Рыгору Раманавічу ды ўсім супольным знаёмым.

Моцна абдымаю.

Твой **М. Забэйда.**

**P. S.** Мо што патрэбна з Прагі? Напішы, вельмі рад, прышлю.

Дарагі Максіме!

Моцна мяне засмуціла вестка, што Ты цэлыя паўтары месяцы ляжаў хворы. Добра, што ўжо ходзіш. Паступова і сэрца перастане балець. Ты ж на цэлых 12 гадоў малодшы за мяне! А я, як бачыш, яшчэ жыву.

Вельмі шкадую, што мяне не было ўдома, калі Ты званіў з аэрадрома. Так прыемна было б пачуць Твой голас хоць па тэлефону. Проста не верыцца, што ад нашае першае сустрэчы прайшло 36 гадоў! Мне ўсё здаецца, што Ты, як і раней, малады. Ты заўсёды знаходзіш словы, якія чалавека парадуюць, падтрымаюць. Пішу Табе гэты ліст, бо хацеў бы Цябе таксама хоць трошкі парадаваць. Маю на ўвазе свой канцэрт, што адбыўся ўчора ў Багданчы. Скажу Табе шчыра, я не свой быў пэўны, што канцэрт давяду да канца, што вярнуся жывым у Прагу. Як-ніяк на днях мне стукнула 72!.. І вось вытрымаў. Хацелася напісаць Табе раней, каб успомніў мяне ў гэты вечар. (Я, браток, веру ва ўплыў, дзеянне добрае волі добрых людзей.) А потым падумаў, што будзеш непакоіцца, ці жывым вярнуся, ды пашкадаваў Твайго сэрца. І добра зрабіў, што не пісаў. Вытрымаў, хоць цяжка было. Праграма, як заўсёды, была інтэрнацыянальная, вялікая, на цэлы вечар. І я не толькі спяваў, але да кожнае песні яшчэ гаварыў адпаведнае слова, што выклікала ў мяне яшчэ большае напружанне. Да таго, былі там і песні, якія спяваў першы раз у жыцці.

Сэрца пачало балець яшчэ перад канцэртам, а тут яшчэ пачало шумець (звінець) у галаве. "Трымайся", кажу сабе. Мабілізаваў усю сваю волю і... вытрымаў да канца. Нават быў змушаны некаторыя песні паўтараць і прыдаваць.

Асабліва моцнае ўражанне зрабіла наша калыханка.

Па канцэрце між слухачамі, якія прыйшлі дзякаваць, аказалася і адна беларуска з Мінска, якая жыве ў Чэхаславакіі даўжэйшы час. Сказала, што ніколі не спадзявалася, што тут пачуе родную песню. А вочы, як і многіх іншых, былі мокрыя.

31 ліпеня маю спяваць у Лугачовіцах, калі дажыву, зразумела. (Мая маці казала: "Не кажы гоп, пакуль не пераскочыў".)

Мне прыпамінаецца слаўны італьянскі спявак Бацісціні, які, кажуць, у 70 год выходзіў на сцэну з кіёчкам, але спяваў, як малады. Вось і я хутка буду хадзіць з кіёчкам. Псуюцца ўжо і ногі. Відаць, я не рыба, бо яна, кажуць, псуецца з галавы.

Прыемна, што нашаю песняю зацікавіліся тут і іншыя спевакі і звяртаюцца да мяне, каб пазычыў ноты, што я раблю ахвотна, бо нотаў нашых тут няма (не даходзяць).

Добрую справу робіць і плітка (пласцінка) з нашымі песнямі. Ці не прыслаць Табе, пакуль яшчэ ёсць, каб Ты мог яе каму-небудзь падарыць?

Моцна Цябе абдымаю. Жадаю Табе, Твайму "калгасу" і супольным знаёмым здароўя, шчасця і поспехаў у працы. Не забывай!

Шлю шчырыя прывітанні.

**Міхась Забэйда.**

*Прага, 24.6.72.*

**Працяг.**
**Пачатак у № 33—34.**

1998-мы — ГОД АДАМА МІЦКЕВІЧА

# НАТХНЁНЫ ПЯСНЯР БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Наваградчына — радзіма паэта Адама Міцкевіча; тут жылі яго продкі, бацькі. Бацька — Мікалай Міцкевіч, прадстаўнік збяднелай беларускай шляхты, быў наваградскім адвакатам, маці — Барбара Маеўская, ураджэнка вёскі Чамброва (Наваградчына). Дасведчаныя людзі сцвярджаюць, што паэт вымаўляў сваё прозвішча мякка: Міцькевіч, як бы падкрэсліваючы, што род ягоны ішоў ад чалавека з імем Міцька. Тут, на абшарах былога Вялікага Княства Літоўскага, не толькі яго радаслоўныя карані, а і вытокі яго духоўнасці, беларускай ментальнасці і паэтычнай сутнасці. Нездарма "пеўцом Литвы" яго называў Аляксандр Пушкін. "Літвой", якую Адам Міцкевіч называў у паэтычных творах сваёй айчынай, была, безумоўна, Беларусь, прынамсі — Наваградчына. Матывы і вобразы паэзіі Адама Міцкевіча былі падказаны яму гаротным жыццём і гераічнай гісторыяй беларускага народа. На беларускім фальклоры заснаваныя вядомыя балады і рамансы, сярод якіх "Свіцязь", "Свіцязянка", "Курганок Марылі", "Лілеі", "Рыбка", "Тры Будрысы" ды іншыя, а таксама асобныя часткі паэмы "Дзяды", сюжэтам якой з'явіўся наш старажытны абрад памінання продкаў (дзядоў). З гісторыі Вялікага Княства Літоўскага ўзяў Міцкевіч сюжэты сваёй "літоўскай аповесці" "Гражына" і "Конрада Валенрода", у якіх апяваецца нацыянальна-вызваленчая барацьба. У паэтычнай эпапеі "Пан Тадэвуш", якая сталася вяршыняй яго творчасці, мы знаходзім цэлую галерэю яскравых вобразаў мясцовай шляхты, бачым цудоўную панараму народнага жыцця, чароўныя краявіды Наваградчыны, Налібоцкай пушчы. Інтымная лірыка генія, яго санеты і вершы пра каханне асветлены трапяткім пачуццём любасці да беларускай дзяўчыны Марылі Верашчакі, *якую на літаратурны лад ён часта на*зывае Лаўрай. Словам, уся творчасць слыннага сына нашае зямлі прасякнута беларускім духам, шчырай, высокай сыноўскай любоўю да Бацькаўшчыны і насталььгіяй па ёй.

Да нашчадкаў Адама Міцкевіча дайшла яго паэтычная спадчына на польскай мове, на той мове, якая была агульнапрынятаю на тэрыторыі ўсёй Рэчы Паспалітай, уключаючы Беларусь. Але хіба мовай творцы вызначаецца яго нацыянальная прыналежнасць? Вядома, не. Ёсць процьма прыкладаў, якія пераконваюць у гэтым. Хіба азербайджанцы адмовіліся ад свайго славутага паэта і мысляра Нізамі з той прычыны, што ён пісаў на персідскай мове? Безумоўна, не. А хіба таджыкі не лічаць сваім вялікага паэта Саадзі, а ён пісаў на персідскай і арабскай мовах?! А няўжо ўзбекі адмовіліся б прызнаць сваім вялікага Алішэра Наваі, калі б ён пісаў толькі па-персідску і нічога не стварыў на старажытнаўзбекскай мове? Ды ні ў якім разе! Ён заставаўся б для іх такою ж духоўнай вяршыняю, нацыянальнай святыняй. Ну а хіба Мікола Гусоўскі не наш, таму што пісаў на лацінскай мове? Хіба мы, чытаючы яго "Песню пра зубра" ў перакладзе на родную мову, не адчуваем у гэтым шэдэўры беларускага духу, велічы нашай прыроды, дыхання пушчы, высокага чалавечага гуманізму?! Чаму ж мы не ўцямім, што і польская мова Міцкевіча, мова ў той час непазбежная, не замінае яму прыносіць славу нашай літаратуры і нацыі?! Назваць Міцкевіча польскім паэтам па моўнай прыкмеце — тое самае, што назваць беларуса-католіка палякам ці беларуса-праваслаўнага расіянінам.

Доўгі час хадзілі чуткі пра беларускі сшытак Адама Міцкевіча. Хутчэй за ўсё творы на беларускай мове ў яго сапраўды былі, як былі яны, скажам, у яго сябра Яна Чачота. Творца, які ўзгадаваўся на беларускім фальклоры і які з такім захапленнем выказваўся пра нашу беларускую мову, называючы яе "самай гарманічнай і з усіх славянскіх моваў найменш змененай", на маю думку, не мог не паспрабаваць выказаць іншы раз свае думкі і пачуцці на мове роднага краю, хоць наша мова і не была тады літаратурнаю. Але ж, не будучы апублікаванымі, такія творы хутчэй за ўсё не захаваліся, магчыма, нават былі знішчаны, трапіўшы не ў тыя рукі... І нашаму чытачу даводзіцца суцяшацца перакладамі твораў Адама Міцкевіча на беларускую мову. Аднак жа іх, кажучы мякка, малавата. Асобныя вершы, асобныя санеты, балады, асобныя паэмы ці фрагменты з паэмаў. Ну, вядома, ёсць і выключэнне з правіла — ажно некалькі варыянтаў пабеларуску "Пана Тадэвуша"! А мне здаецца, была б здзейснена святая справа, калі б наша краіна выдала поўны збор твораў Адама Міцкевіча.

Адам Міцкевіч — адзін з самых любімых маіх паэтаў свету, чыю паэзію перакладаю з асаблівым пачуццём радасці судакранання з высокім, адухоўлена-стваральным мастацкім словам. Увазе чытачоў хачу прапанаваць у маім перакладзе радкі славутага паэта, у якіх чытаецца захапленне родным краем і настальгія па ім.

**Васіль ЖУКОВІЧ.**

**Адам МІЦКЕВІЧ**

## СВІЦЯЗЬ

**ФРАГМЕНТ З БАЛАДЫ**

*Да Міхала ВЕРАШЧАКІ*

**Будзеш калі ў Наваградскім краі,**
**Паміж Плужынскага бору, —**
**Палюбавацца адно я параю**
**Дзіўным азёрным прасторам.**

**Свіцязі ясна-прывольныя воды**
**Пушча з бакоў абступае,**
**Гладкія воды, як шыбіна лёду,**
**Цёмная пушча, густая.**

**Глянеш на возера позняй парою —**
**Здзівішся зоркам, няйначай:**
**І над табой яны, і пад табою,**
**Тут і два месяцы ўбачыш.**

**Будзеш няпэўны, ці ў неба начное**
**Ідзе раўніна шкляная,**
**Ці гэта неба скляпенне шкляное**
**Аж да тваіх ног спадае.**

**Возера дно не адрозніш ад высяў,**
**Сам ты лунаеш нібыта,**
**Дзе з глыбінёю вышыні зліліся, —**
**Ты ў светлай прорве блакіту.**

## ПЕРАД БУРАЙ, СНЯГАМІ

**Пералётныя птахі перад бурай, снягамі**
**Адлятаюць з радзімы з тужліваю песняй.**
**Птахаў тых не віні, бо яны парой весняй**
**Зноў ляцяць на радзіму сваімі шляхамі.**

**Голас іх ты пачуй — вязня-друга успомні!**
**Толькі б сонца надзей пасля буры свяціла —**
**І з выгнання сюды, да цябе, зноў на поўнач**
**Яго дух прыляціць на азораных крылах.**

## ДА НЁМАНА

**САНЕТ**

**Запаветны, радзімы мой Нёман, дзе воды,**
**Да якіх па квяцістых скакалі мы гонях**
**І ў якія свае апускалі далоні,**
**Каб крынічнай хутчэй зачарпнуць прахалоды?!**

**Тут Лаура глядзела ў люстэрка прыроды,**
**Валасы заплятала, уквечвала скроні;**
**Прыгажосці выяву у срэбным улонні**
**Скаланаў я слязой захаплення й лагоды.**
**Запаветны мой Нёман! Крыніцы дзе тыя,**
**З імі шчасце, надзеі, што так віравалі?**
**Дзе лятункі, дзівосы дзяцінства прапалі?**

**Дзе Лаура мая, дзе гады залатыя?**
**Ўсё панеслі з сабой хвалі часу крутыя.**
**Калі так, чаму слёзаў маіх не забралі?**

## ЯК ТРУП ЖЫВЫ...

**Як труп жывы мой з вамі размаўляе**
**І, седзячы, у вочы пазірае,**
**Душа далёка, ах далёка ўсё блукае**
**І наракае ўсё, ах наракае!**

**Я маю край, маёй любві айчыну,**
**І майго сэрца і душы радзіму;**
**Майму не роўня край, што тут, перад вачыма,**
**І мне без той радні жыць немагчыма.**

**Там паміж клопатаў і ад забавы**
**Ўцякаю я, сяджу там пад дубамі,**
**Ляжу ў буйных, такіх духмяных травах,**
**Ганяюся парой за матылямі.**

**Там бачу я: у белым, незямная,**
**Ляціць палеткамі, ступіўшы з ганку,**
**І ў жыце, як у светлых водах, патанае**
**І узыходзіць яснаю заранкай.**

## О, МНЕ ДАЖЫЦЬ БЫ!..

**ФРАГМЕНТЫ З ЭПІЛОГА ПАЭМЫ "ПАН ТАДЭВУШ"**

**...Дзе б толькі доля нам жыць ні судзіла,**
**Знаем у свеце сваю мы радзіму.**
**Мы край дзяцінства, спазнаўшы расстанне,**
**Гэтак шануем, нібыта каханне.**
**Думкай лятаю дадому, дзе, босы,**
**Бегаю лёгка я па сенакосах...**
**У краі родным, у доме уласным,**
**У небагатым, такі быў я шчасны!..**
**Дом на радзіме шырокім быў светам,**
**Песень вытокам і воляй паэта.**

**О, мне дажыць бы да гэткай уцехі,**
**Каб маім кнігам патрапіць пад стрэхі**
**І каб сялянкі, што прадуць кудзелі,**
**Што на вячорках не раз песню пелі**
**Пра харашуню пастушку-сіротку,**
**Тую, што гнала ды гусак чародку,**
**Тую дзяўчыну, што скрыпку любіла**
**І за ігрою чародку згубіла, —**
**Каб маім кнігам хвілінай свабоднай**
**Так былі рады, як песні народнай.**

**Пераклаў з польскай мовы**
**Васіль ЖУКОВІЧ.**

# НА КАРЫСЦЬ ПАСПАЛІТАГА ЛЮДУ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Аўтар артыкула "Да справы веравызнання Ф. Скарыны" У.Талочка лічыць, што трэба дасканала вывучыць гэтае пытанне, каб пацвердзіць ці адкінуць такое.

А. Станкевіч не абышоў увагай імя Скарыны, ён сцвярджае, што магчыма ў Полацку ў дзяцінстве беларускага гуманіста называлі Георгій (Юры). Звернем увагу на тое, што аўтар у загалоўку артыкула называе Скарыну — Францішак. Дыскусія пра імя Скарыны працягваецца да нашых дзён. Яе распачаў В. Тумаш (С. Брага), які выступіў з рэфератам "Пытанне імя доктара Скарыны ў святле актаў і літаратуры" ў Інстытуце навукі і мастацтва ў Нью-Йорку ("Беларус", Нью-Йорк — Таронта, 1965, 100, с. 2), потым з'явіўся яго ж вялікі артыкул пад такой жа назвай у "Запісах" (кніжка 4, Мюнхен, 1966, с. 184—215). Цікава, што сам С. Брага перакананы ў невялікім значэнні гэткага абмеркавання. У сваім артыкуле ён абвяшчае, што "справа таго ці іншага імя нават і гэткай выдатнай гістарычнай постаці, як доктар Скарына, звычайна не мае такога істотнага значэння, каб над ім даўжэй затрымлівацца" (с. 185). В. Тумаш выкарыстаў гэту публікацыю як яшчэ адну магчымасць, каб набыць палітычны капітал супраць савецкага скарыназнаўства. Да гэтай дыскусіі актыўна падключыліся савецкія беларускія даследчыкі М. Прашковіч, С. Александровіч, А. Жураўскі, У. Казбярук, А. Каўка і інш.

Зазначым, што Ф. Скарына быў вялікім вандроўнікам па свеце, таму ён пабываў у многіх краінах, дзе ў розным асяроддзі яго маглі называць па-рознаму. А. Станкевіч дапускае, што ў Полацку бацькі Скарыны называлі яго Георгіем-Юрыем. У Кракаве і Празе, магчыма, ён быў Францішак, у Падуі — Францыскус, Францыскіо. У кнігах Святога пісьма, якія выдаў Скарына, ён называў сябе Францыск і Францішак. Даследчыкі за мяжой і ў Беларусі называюць Скарыну па-рознаму. А. Станкевіч звяртаецца з пашанай да грунтоўнай працы П. Уладзімірава "Доктар Францыск Скарына. Яго пераклады, друкаваныя выданні і мова" (Спб., 1888) (на рускай мове), дзе аўтар манаграфіі называе беларускага першадрукара — Францыск. Недарэчнасцю можна лічыць розныя пастановы, якія прапануюць называць Скарыну Францыск (Георгі). Такое магло адбывацца толькі ў таталітарнай дзяржаве.

Мы ўжо адзначалі, што беларускія даследчыкі Скарыніяны выкарыстоўвалі працы С. Віндукевіча. Такім прыкладам з'яўляецца артыкул А. Саладухі "Францішак Скарына на грунце універсітэцкага жыцця ў Падуі" ("Калоссе", 1937, кн. 1). Ён, спасылаючыся на польскага вучонага ў сваім артыкуле, асоба падкрэсліў, што ў Падуанскім універсітэце медыкі абавязкова, як і ўсе астатнія студэнты, павінны былі займацца класічнай філалогіяй, таму, лічыць аўтар, Ф. Скарына быў падрыхтаваны да перакладчыцкай дзейнасці і з поспехам здолеў перакласці частку Біблії на тагачасную беларускую мову. Адна з прычын, чаму Ф. Скарына заняўся такой справай, па перакананні А. Саладухі, была любоў да свайго народа, роднага краю і народнай гісторыі.

Безумоўна, звяртаючыся да гісторыі беларускага кнігадрукавання, немагчыма не аддаць належнае творчай спадчыне Ф. Скарыны і яго ўздзеянню на ўсё славянскае кнігадрукаванне.

Гэтая праблема была ўзнята і часткова вырашана ў манаграфіі Т. Ільяшэвіча "Друкарня дому Мамонічаў", якая выйшла на польскай мове ў 1938 годзе ў Вільні. У сваёй працы ён выкарыстаў усе ў той час вядомыя яму крыніцы і літаратуру, на якую ёсць спасылкі. Як сцвярджае аўтар, друкарня Мамонічаў знаходзілася пад значным уплывам Ф. Скарыны. Аўтар манаграфіі дапускае, што П. Мсціславец, магчыма, быў вучнем Ф. Скарыны, таму ён прытрымліваўся скарынінскіх традыцый у кнігадрукаванні. Т. Ільяшэвіч выказвае думку, што кнігадрукаванне ў XVI стагоддзі ва ўсходніх славян знаходзілася пад уплывам скарынінскіх традыцый і нават маскоўскае кнігадрукаванне не было выключэннем з гэтага працэсу.

Аўтар мяркуе, што для П. Мсціслаўца кнігі, выдадзеныя Ф. Скарынаю, іх вонкавы выгляд і друкарскае майстэрства былі эталонам, на які трэба было раўняцца, з гэтых пазіцый ён зыходзіў, калі рабіў літары, застаўкі і розныя іншыя кампаненты кнігі.

Такім чынам, аўтар высока ацаніў пачатак Ф. Скарынаю беларускага кнігадрукавання ў Празе і Вільні, адзначаючы выхад у сакавіку 1525 года "Апостала" ў Вільні як першую кніжку, што была надрукавана на землях Вялікага Княства Літоўскага. Аднак зараз вядома, што раней, у 1522 годзе, выйшла "Малая падарожная кніжка", аб якой таксама ёсць звесткі ў гэтай манаграфіі. Зразумела, выдаўшы кнігу на дзяржаўнай мове, даследчык не забыў, што ён беларус, і частку кнігі апублікаваў на беларускай мове ў часопісе "Калоссе". Заўважым, што Т. Ільяшэвіч праз усю кнігу праносіць вялікую павагу да беларускай культурнай спадчыны.

Застаецца назваць яшчэ адно прозвішча, якое пакінула след у скарыназнаўстве. Гэта ўкраінскі вучоны-філолаг І. Агіенка. Ён некалькі гадоў выкладаў старажытнаславянскую мову і кірылаўскую палеаграфію ў Варшаўскім універсітэце. У сваіх навуковых публікацыях ён неаднаразова звяртаўся да жыцця і дзейнасці Ф. Скарыны, робячы яго ўкраінскім дзеячам і выкарыстоўваючы яго кнігі для даследавання ўкраінскай лінгвістыкі.

Такім чынам, цікаўнасць польскіх, беларускіх і ўкраінскіх вучоных да распрацоўкі праблемы, звязанай з постаццю Ф. Скарыны, паспяхова працягвалася ў Польшчы да другой сусветнай вайны. У іх даследаваннях беларускі першадрукар заўсёды выступае як вучоны еўрапейскага ўзроўню, які працаваў на карысць свайго паспалітага народу.

**Марат БАТВІННІК.**

## НАС ВЕДАЮЦЬ У СВЕЦЕ

# МАЙСТЭРСТВА ЦЫРУЛЬНІКА – РАДАСЦЬ ДЛЯ КЛІЕНТА

**Прызавыя месцы на міжнародных конкурсах для беларускіх цырульнікаў не ў навіну. Апошнім часам іх перамогі сталі рэгулярнымі і пастаяннымі.**

**Сёння зборная каманда Беларусі па цырульніцкаму майстэрству рыхтуецца да выступлення на чэмпіянаце свету ў Сеуле.**

Зборная каманда Рэспублікі Беларусь працуе пад эгідай Міжнароднай канфедэрацыі стылістаў. Членамі гэтай канфедэрацыі з'яўляюцца амаль усе ўпраўленні бытавога абслугоўвання Белбытсаюза, а таксама буйныя салоны не толькі Мінска, але і абласных цэнтраў — салон "Лілі" ў Гродне, толькі што адкрыты ў Лідзе новы салон "Гарант", у Гомельскай вобласці, Жлобіне. Гэтыя прадпрыемствы актыўна супрацоўнічаюць з канфедэрацыяй, атрымліваючы дапамогу ў самых разнастайных пытаннях — пачынаючы ад рамонту аб'екта і распрацоўкі яго дызайна да падрыхтоўкі кадраў. Такая ўвага да абласных і раённых гарадоў не выпадковая: як паказвае статыстыка, самая вялікая колькасць талентаў і пераможцаў міжнародных конкурсаў — выхадцы менавіта адтуль, а не са сталічнага Мінска. Акрамя таго, пры канфедэрацыі створаны вучэбны цэнтр па падрыхтоўцы, перападрыхтоўцы і павышэнні кваліфікацыі цырульнікаў. Ужо атрымана ліцэнзія, і ў бліжэйшы час будзе праведзена акрэдытацыя, якая дазволіць выдаваць выпускнікам дыпломы дзяржаўнага ўзору. А самыя лепшыя маюць усе шансы стаць членамі зборнай каманды Беларусі па цырульніцкаму майстэрству. Аднак канфедэрацыя не абмяжоўваецца толькі кансультацыйнай і адукацыйнай падтрымкай майстроў, а бярэцца аказваць ім рэальную дапамогу ў вырашэнні бытавых праблем, што важна не толькі з пункту гледжання камфорту майстроў. Добрага цырульніка не супраць пераманіць не толькі ў Расію, але і на Захад, і бытавая неўладкаванасць тут можа адыграць зусім не апошнюю ролю.

Весці майстар-клас сюды прыязджае Сяргей Звераў, а таксама першы цырульнік Расіі Ірына Баранава. Не так даўно беларускіх цырульнікаў кансультаваў трэнер зборнай Германіі па мужчынскіх відах работ пан Кох.

Цікава, што большасць членаў зборнай не абмяжоўваюцца адной спецыяльнай адукацыяй. Аляксандр Нікіценка вучыцца на эканаміста, а пераможца міжнародных конкурсаў мужчынскі майстар Вольга Булаш будзе мець яшчэ і юрыдычную адукацыю. Беларускія цырульнікі добра вядомыя ў свеце. Аднак "найноўшая гісторыя" перамог беларускіх цырульнікаў вядзе свой адлік з 3 чэрвеня 1997 года, калі яны былі прыняты ў Міжнародную канфедэрацыю цырульнікаў свету.

Услед за гэтым на чэмпіянаце Еўропы беларускія цырульнікі занялі шостае і пятае месцы. Потым была Францыя, дзе ў маладзёжнай намінацыі наша майстар увайшла ў дзесятку лепшых, міжнародныя конкурсы ў Люксембургу, Галандыі, Фінляндыі, Аўстрыі, дзе беларускія цырульнікі ўпэўнена станавіліся лаўрэатамі. Толькі што беларуская каманда вярнулася з Бельгіі, дзе Вольга Булаш увайшла ў дзесятку лепшых майстроў па мужчынскіх работах. Цяпер беларуская зборная рыхтуецца да чэмпіянату свету, які будзе праходзіць у пачатку верасня ў Сеуле. Зборы пачаліся 1 чэрвеня, у каманду ўваходзяць чатыры мужчынскія майстры і чатыры жаночыя, а таксама па тры юніёры, якія будуць выступаць у класе асноўнай каманды.

Аднак усё вышэйпералічанае тычыцца пытанняў "высокай моды", якая далёка не заўсёды знаходзіць адлюстраванне ў рэальным жыцці. І моду сёння часта дыктуюць не конкурсныя шэдэўры лепшых майстроў, а стан кашалькоў кліентаў. Далёка ж не кожны можа дазволіць зрабіць сабе дарагую стрыжку "Сэсан" за 4 мільёны беларускіх рублёў, якая выконваецца майстрам міжнароднага класа, членам рэспубліканскай зборнай. Нярэдка даводзіцца бачыць прычоскі і стрыжкі, выкананыя яўна непрафесіяналамі ці дрэнна падрыхтаванымі спецыялістамі. "Затое танна", — гатовы адказ у іх уладальнікаў.

У Беларусі цырульнікаў рыхтуюць дзве ўстановы — Мінскі і Віцебскі тэхналагічныя тэхнікумы, якія даюць адукацыю па спецыяльнасці "цырульнік-мадэльер". Але апошнім часам майстроў сталі рыхтаваць не толькі яны. Пры заводах, камбінатах, прыватных фірмах, магазінах арганізоўваюцца платныя трох-, чатырохмесячныя курсы цырульнікаў, дзе бессістэмна і на скорую руку даюцца толькі самыя асновы прафесіі. Выпускнікі такіх курсаў пасля іх заканчэння, нярэдка хаваючыся ад падаткаабкладання, працуюць на прыватных кватэрах, у неабсталяваных падвалах, дзе немагчыма захаваць элементарныя санітарныя нормы. На жаль, поспеху такіх цырульнікаў у немалой ступені садзейнічае цяжкае матэрыяльнае становішча большасці грамадзян, якое не дазваляе многім скарыстаць паслугі добрай цырульні.

Але выйсце, па словах прэзідэнта Міжнароднай канфедэрацыі стылістаў Аляксандры Лазоўскай, ёсць. Неабходна пашырыць асартымент прычосак і стрыжак,каб цырульні прапаноўвалі наведвальнікам не толькі выгадныя для іх дарагія мадэлі, але і менш складаныя прычоскі, якія маглі б падысці кліенту. А для гэтага неабходна распрацаваць як мага больш тэхналогій стрыжак, чым, уласна кажучы, і займаецца канфедэрацыя.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**



Больш вясёлага чалавека ў Жабінкаўскім раёне, чым выканаўца частушак Таіса СОТНІКАВА, бадай, не знойдзеш. Усё жыццё працавала на Жабінкаўскім цукровым заводзе і пастаянна спявала ў мастацкай самадзейнасці. Яна ўдзельнік многіх гарадскіх, раённых і абласных фестываляў народнай творчасці.

Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.

## ДЛЯ ТЫХ, ХТО ЛЮБІЦЬ ПЕСНЮ

# ДУБ МАГУТНЫ

*Словы А. Ш.*

*Муз. традыцыйная рэд. В. Селяха-Качанскага*




**1. Над ракою, на прасторы,
як у поле вартавы,
Дуб стаіць, магутны сільны, волат
векавы.
Ён карэньнямі глыбока ў зямлю
ўрос,
І зялёнаю чупрынай дастае нябёс.**

**2. Тут ня раз вятры гулялі,
завывалі над зямлёй,
Біў пярун, маланкі зьзялі ў нетрах
цьмы начной.
Буры гнулі, віхры рвалі, дуб той ля
ракі,
Ён-жа, цьвёрды, непарушны,
прастаяў вякі!**

**3. Так і наш народ, нязломны, як
магутны дуб стаіць;
Пасьля буры, непагоды, сьмела ў
даль глядзіць.
У яго крыніца сілы
— родная зямля,
А над ім надзея сонца, неба сінява!**

**1. In the meadow by the river, guardian
of the
countryside,
Stands an oak-tree, tall and mighty,
branches
spreading wide.
In the earth its rocts search deep, to
where the rock-
bed lies,
Whilst its verdant, whispering foliage
reaches to
the skies.**

**2. Oft it seemed its storm-tossed boughs
must
yield before the crack of doom: —
Wild gales howled and thunder roared,
whilst
lightnings rent the gloom;
Racked by winds and torn by tempests,
smitten by
the blast,
That great oak-tree by the river, through
the years
held fast.**

**3. Like that oak, our sturdy people have
withstood
the test of time,
Storms give way to calmer weather,
gales to
gentler clime;
Rooted in its soil our nation adverse
Fate defies,
Spreading, reaching ever upwards
to blue, sun-lit
[skies.**

Tr. from the Belarusian: G. P.

**Мікола АЛТУХОЎ**

## ПА ГРЫБЫ

**Рэчка ў лёгкім тумане
Калыхае чаўны,
А мяне на світанні
Лес чакае грыбны.**

**Загараюцца росы
На галінах ляска,
Дзе чакаюць дзівосы
Дзівака-грыбніка.**

**Не гамоняць на ўзгорках
І ў нізінах дубы,
Дзе гараць, нібы зоркі,
Залатыя грыбы.**

**У пару залатую
Пачастункі свае
Лес любому дарує,
Радасць перадае.**

**Лес хавае трывогі,
Ды пяе вецярок,
Каб ты сябра старога
Шанаваў і бярог.**

**Нібы гном у калысцы,
Грыб падрос уначы...
Лесу кланяйся нізка
Ты, яго беручы.**

Намеснік рэдактара
Дзіяна ЧАРКАСАВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій
і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі
з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях
з суайчыннікамі за рубяжом
(таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект
Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97,
213-32-80, 213-30-15, 284-76-56,
213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў,
матэрыялы якіх друкуюцца на старонках
«Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана
і аддрукавана ў друкарні
«Беларускі Дом друку».
(220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 835 экз. Індэкс 63854. Зак. 1506.
Падпісана да друку 31. 08. 1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.